№№55–56
(3594–3595)
6 красавіка 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АФІЦЫЙНА

## У бліжэйшы час можа быць прынята рашэнне аб памілаванні некаторых асуджаных

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка можа ў бліжэйшы час прыняць рашэнне аб памілаванні некаторых асуджаных, якіх на Захадзе лічаць палітзняволенымі. Аб гэтым кіраўнік дзяржавы заявіў учора на нарадзе па пытаннях знешняй палітыкі, перадаў карэспандэнт БЕЛТА.

*"Вельмі шмат апошнім часам гавораць аб нейкіх палітзняволеных. У нас у Крымінальным кодэксе няма палітычных артыкулаў"*, — падкрэсліў прэзідэнт.

Ён адзначыў, што сёння ўжо нават у апазіцыйных СМІ адкрыта заяўляюць аб тым, што на Лукашэнку націскаць бесперспектыўна. *"Гэта правільна. Але далей гавораць няправільна, што калі на яго націскаць, то ён зробіць наадварот. Поўнае глупства. Я ніколі не зыходзіў з нейкіх асабістых амбіцый. Я зраблю так, як патрабуюць Канстытуцыя і законы. Ніякіх "наадварот" быць не можа,* — адзначыў беларускі лідар. — *А тое, што трэба паводзіць сябе больш прыстойна, калі нешта просіш або нават патрабуеш, гэта правільна, тым больш калі ты патрабуеш або просіш нечага ад Прэзідэнта. Не трэба тут з палкамі хадзіць і стукаць у акно".*

Што датычыцца так званых палітзняволеных, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што іх родныя пачынаюць яго папракаць тым, што ён абяцаў іх памілаваць, але пакуль гэтага не зрабіў. *"Прычына адна. Як толькі я сказаў аб гэтым (а гэта было сказана некалькі месяцаў таму), усе залямантавалі. Але я папярэдзіў, што пытанне памілавання так званых палітзняволеных — гэта перш за ўсё іх зварот з просьбай аб памілаванні. Я адразу публічна аб гэтым сказаў. Не хочаш звяртацца — ніхто і разглядаць не будзе. Сядзі",* — сказаў прэзідэнт.

Як адзначыў Аляксандр Лукашэнка, пасля яго заявы пачаліся размовы аб тым, што прашэнні аб памілаванні былі напісаны пад нейкім націскам. *"І я даручыў адпаведным службовым асобам праверыць: па сваёй волі напісалі просьбу аб памілаванні або іх сапраўды прымусілі. Днямі мне прадаставілі інфармацыю, у тым ліку і відэа, дзе яны шчыра і сумленна кажуць: "Ды не, гэта наша была воля". Нехта там, адзін-два, не захацелі пісаць. Добра, гэта іх выбар. Няхай сядзяць"*, — расказаў кіраўнік дзяржавы.

*"У дачыненні да тых, хто папрасіў аб памілаванні, у бліжэйшы час я разгледжу гэтыя пытанні. Мяне ніхто не папракне, што я свае абавязацельствы або абяцанні не выконваў. Мы прымем рашэнне па некаторых асобах, якія ў рэшце рэшт усвядомілі згубнасць сваёй пазіцыі і палітыкі ў адносінах да ўласнай дзяржавы"*, — заявіў беларускі лідар.

*(Паводле паведамлення БЕЛТА.)*

### АД РЭДАКЦЫІ «НАРОДНАЙ ВОЛІ»

*Паколькі карэспандэнт БЕЛТА цытуе А.Лукашэнку ўрыўкамі, то нам складана каменціраваць яго ўчарашняе выказванне наконт магчымага памілавання некаторых асуджаных у сувязі з падзеямі 19 снежня 2010 года. Хутчэй бы дачакацца вызвалення людзей з турмаў, а там будзе час для пэўных высноў.*

СКАЗАНА!

## *Аляксандр ЛУКАШЭНКА:*



*— Гаварыць аб тым, што мы будзем ваяваць супраць Захаду, таму што мы пад крылом у Расіі, гэта абсалютнае глупства, прымітывізм. Нам гэта вайна не патрэбна яшчэ і таму, што не хацелася б, каб мы перагружалі Расію ўласнымі праблемамі. Расія нас будзе абараняць сабе на шкоду. У Расіі сёння сваіх праблем дастаткова. Таму нам не трэба перагружаць нашых блізкіх партнёраў праблемамі ў адносінах з Заходняй Еўропай.*

***

*— Як толькі пачалі нашых бізнесменаў прыціскаць, адразу ж пайшла рэакцыя і некаторых заходніх дзяржаў аб тым, што гэта няправільна. Гэта значыць, ужо ў ЕС усведамляюць заганнасць гэтай лініі на санкцыі. Ну а навошта нам з імі ваяваць? Суседзі ад Бога. Нам з імі трэба выбудоўваць адносіны. Мы будзем шчаслівымі, калі ў нас будуць такія ж адносіны з Захадам, як з Усходам".*

***(З выступлення на ўчарашняй нарадзе па пытаннях знешняй палітыкі.)***

## Аб'яднаем нашы духоўныя сілы і намаганні ў абароне Божай праўды

*(З пастырскага паслання Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага, арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча на Вялікдзень)*

...Сын Божы прыйшоў у свет, дзе дамінуе грэх і смерць. Аднак Ён прыйшоў, каб прабываць сярод смерці і няшчасцяў як Жыццё свету. Да Яго спяшаліся розныя хворыя і пракажоныя, бацькі памерлых дачок і маці памерлых сыноў і г.д. Езус правёў сваё жыццё сярод сляпых, кульгавых, глухіх, нямых, грэшнікаў, апантаных нячыстымі духамі і г.д. Жывучы сярод няшчасцяў і смерці, Валадар Жыцця паддаўся ёй на дрэве крыжа і зышоў у магілу.

Нягледзячы на гэта, анёл пытаецца: "Чаму вы шукаеце жывога сярод мёртвых?" Езус пражыў сваё жыццё як Валадар Жыцця сярод памерлых, быў пахаваны як кожны з іх, але на трэці дзень пасля сваёй смерці Ён ужо не быў сярод іх. Ён уваскрос у першы дзень новага тыдня. Слова "новы тыдзень" трэба разумець як новы час, бо з уваскрасеннем Хрыста распачаўся час збаўчай Божай ласкі.

Сучасны свет супрацьстаіць прысутнасці Бога на зямлі. Мы можам вызнаваць нашу веру ў Бога, аднак у той жа час жыць так, як быццам Езус не ўваскрос. Шукаем шчасця ў нязгодных з воляй Божай сексуальных задавальненнях і сквапных накапленнях матэрыяльных рэчаў. Забіваем ненароджанае жыццё. Выказваемся за разводы. Падтрымліваем штучнае апладненне і сурагатнае мацярынства. Не захоўваем прынцыпаў хрысціянскай этыкі. З лёгкасцю можам прынізіць годнасць чалавека. Практыкуем акультызм, магію, варажбу і г.д. Шукаем саміх сябе ў этнічнай ідэнтычнасці, сацыяльным ці эканамічным статусе. Нярэдка хвалімся: "Я добра адукаваны, разумны, не такі, як іншыя; мой заробак большы, чым у іншых; я атрымаў вялікую спадчыну, і ўсё гэта падымае мой статус у грамадстве".

Святы апостал Павел кажа, што ўсё належыць да адноўленага праз Хрыста свету. У ім няма розніцы, бо ва ўсім ёсць Хрыстус. Калі мы стараемся адрозніваць сябе паводле сацыяльнага, эканамічнага ці палітычнага статусу, гэтым самым мы здраджваем Евангеллю, здраджваем абвяшчэнню ўваскрасення. Менавіта таму анёл зноў пытаецца ў нас: "Чаму вы шукаеце жывога сярод памерлых?"

Замест таго, каб шукаць нашага жыцця сярод памерлых, Святы Павел заклікае весці барацьбу з духоўнай смерцю.

Гісторыя мукі і смерці Хрыста — гэта гісторыя трыумфу фальшу над праўдай, несправядлівасці над справядлівасцю, злога духу над дабром. Езус быў фальшыва абвінавачаны за злачынствы, якіх не здзейсніў, несправядліва асуджаны на смерць, якой не заслужыў. Адзін з вучняў здрадзіў, верныя прыяцелі пакінулі, а Пётр, якому Ён вызначыў быць першым, ажно тры разы адрокся ад Яго. Людзі, якіх Ён любіў, заклікалі Яго ўкрыжаваць і выпусціць на свабоду злачынцу Бараббу. Гэта гісторыя здрады і хлусні, несумленнасці і ганебнасці, нявернасці і гвалту, накіраваная супраць нявіннай і бездапаможнай ахвяры. Усё гэта прыходзіць нам у галаву ў Вялікую пятніцу, калі мы бачым Езуса бічаванага, высмеянага, прыбітага да дрэва крыжа, на якім Ён памёр, а затым быў пахаваны. Калі б гэта быў канец Ягонай гісторыі, то сапраўды гэта была б вельмі сумная гісторыя. Але, дзякуй Богу, гэта не так.

Смерць — гэта не канец гэтай гісторыі. Ёсць яшчэ адна частка. Найбольш важная, бо, як кажа прыказка, "смяецца той, хто смяецца апошнім". І ў гэтай частцы гісторыі мы бачым Езуса ўваскрослым у славе. І гэта тая Добрая Навіна, якую нам нясе свята Пасхі.

Сапраўды, Добрая Навіна ёсць у тым, што праўда Хрыстова несмяротная. Яе можна пераследаваць, можна абвінаваціць у ілжывасці, можна асудзіць, можна пахаваць у магіле і г.д., як гэта было некалькі дзесяцігоддзяў таму на нашай зямлі. Яле яна ўваскрэсне на трэці дзень.

Дарагія браты і сёстры, усе людзі добрай волі!

Ад усяго сэрца віншую вас з



радасным і збаўчым святам Пасхі Хрыстовай. Віншую ўсіх вернікаў-католікаў і тых хрысціян, якія сёння адзначаюць гэтае свята. Віншую таксама і праваслаўных, якія праз тыдзень будуць спяваць радаснае "Алелюя". Пасха Хрыстова — гэта наша супольнае хрысціянскае свята, якое заклікае нас не шукаць жывога сярод памерлых і радавацца перамозе жыцця. Аб'яднаем нашы духоўныя сілы і намаганні ў абароне Божай праўды, якая вядзе да сапраўднага жыцця і шчасця ў Божай ласцы, якога ніхто і нішто не можа нас пазбавіць.

Віншую ўсіх людзей добрай волі. Езус сваёй крыжовай смерцю і слаўным Уваскрасеннем збавіў усіх людзей, і таму наша радасць мае права быць супольнай.

Усім вам жадаю моцы Уваскрослага, Яго уваскрасаючай з магілы граху ласкі; жадаю радасці, шчасця і надзеі.

Няхай радаснае "Алелюя" гучыць у нашых сэрцах і душах, няхай збаўчая Пасха ідзе па зямлі, няхай закране кожнага чалавека, няхай адорыць яго новым жыццём ва ўваскрослым Хрысце!

Хрыстус уваскрос! Сапраўды ўваскрос! І мы павінны ўваскрэснуць да новага жыцця ў Божай ласцы!

SOS!

## *Алена КАВАЛЕНКА:* «Вельмі хочацца верыць, што яны зробяць усё, каб мой муж застаўся жывы»

Віцебскага актывіста КХП—БНФ Сяргея Каваленку, які зараз знаходзіцца ў калоніі "Віцьба-3", працягваюць прымусова выводзіць з галадоўкі.

Нагадаем, што Сяргей лічыць свой арышт незаконным, таму яшчэ задоўга да пачатку суда — у снежні мінулага года — ён абвясціў галадоўку, якую трымае з 20-дзённым перапынкам.

Добраахвотна выходзіць з галадоўкі Каваленка па-ранейшаму адмаўляецца, патрабуючы адмены прыгавору і пераводу ў звычайную бальніцу. Тым часам з канца мінулага тыдня Каваленку пачалі карміць праз зонд, прымусова.

Учора з самага ранку жонка Сяргея Каваленкі Алена ў чарговы раз была ў калоніі.

— Да яго мяне не пусцілі, — расказала "Народнай Волі" Алена. — Медыкі спасылаліся на тое, што яму робяць кропельніцу з амінакіслотамі. Па іх словах, яе паставілі Сяргею ў дзевяць гадзін раніцы і разлічана яна на пяць гадзін. Але дактары па-ранейшаму баяцца за будучае Сяргея — ніякіх прагнозаў яны не даюць. Медыкі пацвярджаюць, што ён слабы: вага 46 кілаграмаў, ціск 90 на 60... Тым не менш Сяргей па-ранейшаму застаецца пад доглядам турэмных медыкаў, яны кажуць, што няма патрэбы пераводзіць яго ў цывільны шпіталь...

Пасля кропельніцы Алене Каваленка ўсё ж такі дазволілі ўбачыць мужа ў турме.

— Са слоў Сяргея вынікае, што прымусова карміць яго пачалі ў мінулы чацвер. Паколькі добраахвотна ён прымаць ежу адмаўляецца, яго прывязваюць да ложка і праз трубку, якая праведзена праз нос, уводзяць дзіцячыя сумесі і пюрэ. Выглядае муж знямоглым. Сказаў, што з чацвярга мінулага тыдня на працягу трох дзён яго не адвязвалі нават для таго, каб ён схадзіў у прыбіральню. Муж кажа, што пасля таго, як яго сталі прымусова карміць, моцна забалеў жывот, ён кашляе крывёй. Па яго словах, у яго моцная інтаксікацыя арганізма, не працуе падстраўнікавая залоза, акрамя таго, ён падхапіў прастуду.

Пры гэтым я бачу, што турэмныя медыкі сапраўды непакояцца за стан Сяргея. Яны спрабуюць рэальна дапамагчы яму. Вельмі хочацца верыць, што яны зробяць усё, каб мой муж застаўся жывы.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ЧУЛІ?

## *Паслы запрошаны на пасяджэнне парламента...*

**Беларускі бок накіраваў усім замежным паслам, якія цяпер знаходзяцца ў Беларусі, запрашэнне на ўдзел у пасяджэнні парламента, на якім прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выступіць са штогадовым Пасланнем да беларускага народа і парламента. Аб гэтым паведаміў учора на брыфінгу начальнік упраўлення інфармацыі — прэс-сакратар МЗС Беларусі Андрэй Савіных.**

## *Дзмітрый Бандарэнка трапіў у санчасць*

Учора Магілёўскую калонію №15 наведала жонка палітвязня Дзмітрыя Бандарэнкі Вольга. Яна перадала мужу лекі.

"Была дужа доўгая прастуда ў яго. Абвастрылася падагра, — кажа Вольга. — Яму зрабілі магнітнарэзанансную тамаграфію. Вынікаў пакуль не ведаем".

Інваліднасць Бандарэнку не прызначылі. *"Усе інстанцыі адмовілі,* — сказала Вольга Радыё Свабода. — *Захацелі б даць інваліднасць — далі б. Захацелі б, вызвалілі, паводле ўмоўна-датэрміновага вызвалення — няма ж у яго ніякіх парушэнняў, усе іскі пагашаныя, — але не хочуць"*

1 лютага Д.Бандарэнка падаў прашэнне пра памілаванне.

«ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

## Сёння Аляксандр Мілінкевіч адкажа на любыя пытанні!

*Сёння, 6 красавіка, з 13 да 15 гадзін у "Народнай Волі" пройдзе тэлефонная "Прамая лінія" з Аляксандрам Мілінкевічам.*

*Чаму менавіта з ім?*



*Таму што, як сведчыць рэдакцыйная пошта, да экс-кандыдата ў прэзідэнты, лідара Руху "За свабоду" шмат пытанняў у грамадскасці.*

*Якую ролю ён іграе на палітычнай сцэне краіны?*

*Нацыянальны герой ці звычайны дэмагог?*

*Мае давер у народа ці не?*

*Здольны згуртаваць беларусаў, дабіцца перамен ці "не па Сеньку шапка"?*

*Атрымаць адказы на гэтыя і многія іншыя пытанні ў чытачоў "Народнай Волі" будзе магчымасць падчас "Прамой лініі" з Аляксандрам Мілінкевічам. Спадзяёмся, ён задаволіць Вашу цікавасць па самых розных аспектах як свайго жыцця, так і жыцця нашай краіны.*

***Нумар "Прамой лініі": 8-017 328-68-41. Яшчэ раз нагадаем: Аляксандр Мілінкевіч будзе на сувязі 6 красавіка з 13 да 15 гадзін.***

***Пытанні для Мілінкевіча таксама можна загадзя дасылаць праз электронную пошту nv@promedia.by і пісьмова ў звычайных лістах з пазнакай «Прамая лінія».***

КАНФЛІКТ

## Пярэпалах у «Паркінгу»

У гандлёвым цэнтры "Паркінг", які месціцца побач з Камароўскім рынкам, мякка кажучы, пярэпалах. І выкліканы ён павышэннем арэнднай платы за плошчы болей як у два разы.

— *Атмасфера вельмі напружаная*, — гаворыць старшыня савета прадпрымальнікаў **Кацярына Чыжык**. — *Сёння дзень скасавання дамоў. Гэта пры тым, што старыя дамовы падпісаны на тэрмін да 31 студзеня 2013 года. За квадратны метр мы павінны цяпер плаціць арэнду 1 мільён 188 тысяч рублёў. А гандлёвыя кропкі ў асноўным ад 10 да 20 квадратных метраў, ёсць і большыя. Вось і лічыце. За 24 квадратныя метры цяпер трэба заплаціць у месяц 28 мільёнаў рублёў, плюс 2 мільёны 200 тысяч рублёў падаткаў, а яшчэ камуналка каля мільёна... Мала таго, пры гэтым мы карыстаемся платнымі прыбіральнямі і плацім за гарачую ваду. Спрабуем дамовіцца да нейкага больш-менш прымальнага варыянта з адміністрацыямі "Паркінга", але ўсё безвынікова*.

Гандлёвым цэнтрам "Паркінг" валодаюць кампаніі "Альпійскія інвестыцыі" і "Паўночны Захад-інвест". Менавіта з імі спрабуюць дамовіцца прадпрымальнікі. Цягам апошніх 12 месяцаў арэндная плата павышалася два разы. Цяперашняе павышэнне прадстаўнікі дробнага бізнесу, па іх выказванням, проста не пацягнуць. Але сустрэча прадстаўнікоў адміністрацый "Паркінга" з прадпрымальнікамі не дала ніякіх вынікаў. Чаму?

Намеснік дырэктара "Паўночны Захад-інвест" **Леанід Карака** сказаў "Народнай Волі", што не мае жадання і паўнамоцтваў адказваць на гэтыя пытанні.

— *Нам сказалі, што ніхто зніжаць плату не будзе*, — працягвае Кацярына Чыжык. — *Каму не падабаецца — той можа сыходзіць адсюль. Але мы тут ад самага пачатку працуем, ужо 12 гадоў. Мы не хочам сыходзіць. Пайсці на новае месца сёння азначае спыніць свой бізнес.*

Прадпрымальніца **Ала Рашкевіч** таксама абурана новымі расцэнкамі:

— *З-за крызісу мы і так згубілі 70 працэнтаў пакупнікоў. Я маю тут адносна невялікую плошчу. Але калі заплаціць такую арэндную плату, то праца стане проста нерэнтабельнай. Павысіць кошты на тавары? Тады зусім не будзе пакупнікоў.*

Прадпрымальнікі запэўнілі, што 6 красавіка выйдуць на вуліцу і там будуць праводзіць свой сход, каб прыцягнуць да праблемы ўвагу ўлад і шырокай грамадскасці.

...Міжволі я прыгадала марозны дзень 1 сакавіка 2005 года — тады прадпрымальнікі абвясцілі агульнанацыянальны



страйк. Галоўнай мэтай акцыі быў пратэст прадстаўнікоў дробнага бізнесу супраць увядзення падатку на дададзеную вартасць на тавары, што ўвозяцца з Расіі. І так здарылася, што за дзень да правядзення той акцыі, калі я рыхтавала матэрыял, я наведала менавіта "Паркінг", таксама размаўляла з тутэйшымі прадпрымальнікамі, большасць з якіх складалі жанчыны. Усе выказваліся рашуча і запэўнівалі, што выйдуць на плошчу. На наступны дзень на плошчу выйшлі каля трох тысяч чалавек з некалькіх сотняў тысяч прадпрымальнікаў. Але колькі я ні ўглядалася ў твары, сваіх суразмоўцаў з "Паркінга" так і не заўважыла. Акрамя, можа, двух-трох чалавек...

Сёння стане вядома, ці выйдуць яны на вуліцу гэтым разам бараніць свае інтарэсы.

**Любоў ЛУНЁВА.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
6 КРАСАВІКА 2012 г.

ГУЧНАЯ ТЭМА

## Расследаванне па справе Захаранкі зноў падоўжылі

*Вестку пра гэта са Следчага камітэта днямі атрымаў праваабаронца Алег Волчак.*

“Тэрмін папярэдняга расследавання па крымінальнай справе №110352 па факце знікнення Захаранкі Ю.М. працягнуты па 24 чэрвеня 2012 года, — *інфармуе начальнік аддзела метадычнага забеспячэння папярэдняга следства Следчага камітэта падпалкоўнік юстыцыі* ***Юрый Вараўка****.* — Аб выніках расследавання вам будзе паведамлена дадаткова”.

Падобныя адпіскі сям’я эксміністра ўнутраных спраў атрымлівае ўжо шмат гадоў. А між тым 7 мая будзе роўна 13 гадоў, як невядомыя людзі заштурхулі Юрыя Захаранку ў машыну і павезлі ў невядомым накірунку...

**Марына КОКТЫШ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



*Борис ЖЕЛИБА, доктор экономических наук, профессор*

# «В Багдаде все спокойно?»

Результаты работы белорусской экономики в первом квартале выглядят довольно обнадеживающе. На первый взгляд, если иметь в виду ее провальные показатели в году истекшем, инфляция снижается, валютная выручка растет. Торговое сальдо положительное. Рубль стабилен. За январь цены на потребительском рынке выросли на 1,9%, за февраль — на 1,5%, за две недели марта — на 0,8%.

За январь-февраль положительное сальдо за товары и услуги (включая доходы и трансферты) составило 908,2 млн долларов после дефицита в 1265,7 млн за такой же период прошлого года. Из этой суммы положительного сальдо Беларусь должна была перечислить России 660,7 млн долларов экспортных пошлин за нефтепродукты, сделанные из российской нефти. Но все равно сальдо осталось положительным в 247,5 млн долларов.

Поступление валютной выручки за этот же период достигло 7,8 млрд долларов, что на 53,2% больше прошлогоднего показателя. Правда, экспорт не только не диверсифицировался, а стал еще более однобоким. Основное и все большее место в его структуре по-прежнему занимали калийные удобрения и нефтепродукты. Сказалось то, что Россия загрузила под завязку сырьем наши нефтезаводы, и это позволило экспортировать белорусскую нефть. Также благоприятствовала и конъюнктура мировых цен на нефть и калий хлор. За первые два месяца белорусские экспортеры в рамках 30%-ной обязательной продажи реализовали на бирже 1,7 млрд долларов, что в 1,7 раза больше, чем за аналогичный период прошлого года. Это дало возможность Нацбанку прикупать валюту. Население страны почти полгода продает валюты больше, чем покупает. Чистая ее продажа за это время составила 1 млрд долларов. В результате белорусский рубль крепчал.

Во многом все эти плюсы можно отнести на счет более жесткой монетарной политики Нацбанка. Высокие рублевые проценты заставили госпредприятия, жилищное строительство поумерить свои кредитные аппетиты. Зато усилился приток рублей во вклады со стороны населения и предприятий. Рублевые депозиты физических лиц составили на 1 марта рекордные 16,7 трлн рублей. Те проценты, которые предлагали банки, а это в расчете на месяц 3—4%, явно перекрывали среднемесячную инфляцию. В итоге спрос на кредиты стал меньше, чем спрос на депозиты, и банки были не в состоянии быстро разместить все привлеченные ими средства, что и вызвало так называемую избыточную ликвидность. Избыточная банковская ликвидность, которая сейчас оценивается в 3,5—4 трлн рублей, создает инфляционный потенциал. Ее необходимо изымать, что и делал Нацбанк, предлагая коммерческим банкам приобретать свои краткосрочные облигации. Так сказать, стерилизовал излишнюю рублевую массу, которая начала опять идти в рост. Достаточно напомнить, что если на 1.01.2011 года она составляла 26,4 трлн, в том числе 4,5 трлн наличных рублей, то на 1.01.12 года после валютного кризиса она была 43,4 трлн, в том числе 6,7 трлн наличными. А на 1 марта рублевая масса составила уже 45,9 трлн, из них 6,9 трлн банкнотами. В макроэкономике это трактуется по-разному: разогрев, накачка деньгами, популизм и т.п. Во всяком случае, аналитики задаются вопросом: что, конец недолгого периода ужесточения денежно-кредитной политики, и вновь наступает монетарное расслабление, как год назад? Руководство главного банка страны уверяет, что рост рублевой массы строго увязан с увеличением валютных поступлений от экспорта.

Ставка рефинансирования вновь снижена на 2%. По мнению специалистов, последующее снижение рублевых депозитных процентов может быстро переориентировать рублевых вкладчиков на конвертацию. Предприятия пока также в большей мере ориентируются на валютные кредиты ввиду их сравнительной дешевизны. Все это может создать давление на валютные курсы рубля. За март на бирже спрос на доллары превысил их предложение почти на 100 млн долларов. По другим валютам соотношение было обратное. Вероятней всего, Нацбанку пришлось восполнять дефицит долларов. Хотя он отрицает какие-либо существенные интервенции, а если и вмешивается в торги, то только в целях сглаживания резких колебаний курса рубля. Тем временем объявлено, что на проведение посевной кампании будет выделено около 10 триллионов рублей.

Рублевое стимулирование экономики будет осложняться резко возросшими валютными обязательствами государства, банков и субъектов хозяйствования. Совокупный внешний долг вырос за 2011 год на 5,6 млрд долларов, или на 20%. Он уже превысил 34 млрд долларов и достиг 62,3% ВВП, который, по расчетам официальной статистики, оценивается в 54,6 млрд долларов. Причем эти миллиарды рассчитаны по среднегодовому курсу доллара 5020 рублей за “зеленый”. В расчет, естественно, брались текущие официальные курсы Нацбанка, которые не отражали реальной валютной обстановки в 2011 году. Так, в конце мая курс Нацбанка был около 5 тыс. рублей, но “черный” и “серый” рынки давали 6—7 тысяч. А в августе — 9—10 тысяч белорусских рублей. Если учесть реальные курсы, то ВВП Беларуси не выйдет за 40 млрд долларов, и доли совокупного и государственного внешнего долга в нем будут совсем иные. Если же Нацбанк будет пересчитывать белорусский ВВП по среднему курсу текущего года, который прогнозируется в 8500 рублей, то наш ВВП в долларовом эквиваленте в этом году не увеличится.

По данным главного банка, общие платежи (государственные и корпоративные) по внешнему долгу в 2012 году составят 18,9 млрд долларов, что в 3 раза больше, чем они были в 2011 году (6,3 млрд). Золотовалютные резервы страны должны полностью покрывать годовые выплаты по валовому долгу. У нас они 8 млрд долларов. Для гарантированного расчета по внешним обязательствам их явно мало. Но помощь нам сегодня придет только с Востока, так как западный вектор отрезан. И понятно, за какую цену.

Таким образом, реальный сектор требует дешевых кредитов, и снижение ставки рефинансирования направлено на удовлетворение его интересов. В то же время уже не единожды пуганные, а потому осторожные физические вкладчики со снижением депозитных рублевых процентов могут начать по накатанному в прошлому году сценарию уводить рублевые ресурсы из банков и повышать спрос на валюту. Которой и так много надо вернуть за долги. Это же сделают и юридические лица. Плюс обязательства властей довести зарплату белорусов вновь до 500-долларового эквивалента. Что бы ни утверждал Нацбанк, есть риск того, что соотношение между рублевой и валютной массой может резко измениться. Понятно, в чью сторону. Пока же главный регулятор балансирует. Пока “в Багдаде все спокойно”. Примерно год назад нас также уверяли, что на финансовом рынке все стабильно, все под контролем.

МАРШРУТЫ

## Чэргі на «Варшаўскім мосце»

*Дзяржаўны пагранічны камітэт Беларусі рэкамендуе аўтаўладальнікам, якія накіроўваюцца ў Польшчу, аб’язджаць пункт пропуску “Варшаўскі мост” — там вялікія чэргі.*



У той жа час размешчаны за 40 кіламетраў ад “Варшаўскага моста” пункт пропуску “Дамачава” свабодны.

Таму транспартныя патокі рэкамендуецца перанакіроўваць менавіта туды.

У Дзяржпагранкамітэце не выключаюць, што адной з прычын узнікнення чаргі на “Варшаўскім мосце” з’яўляюцца чуткі аб хуткім павышэнні ў Беларусі кошту аўтамабільнага паліва, якое ў сумежных краінах даражэйшае.

РЭГІЁНЫ

## Модны форум у Гродне

*Арганізатары традыцыйнага Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур збіраюцца ператварыць яго ў модны форум.*

Вось ужо дзевяць гадоў фестываль нацыянальных культур збірае ў Гродне прадстаўнікоў розных нацыянальнасцяў, якія распавядаюць аб сваёй культуры. Свята заўжды атрымліваецца яркім, шумным і шматлюдным. Сёлета фармат фестывалю вырашылі абнавіць. Госці па-ранейшаму змогуць наведаць нацыянальныя падворкі, а ўвечары — паслухаць самую папулярную музыку на Савецкай плошчы. Пакуль кіраўнікі дыяспар разглядаюць пытанне аб тым, каб запрасіць на канцэрт не толькі беларускіх зорак, а ўпрыгожыць сцэну выступленнямі **Земфіры, Ёлкі, Патапа** і **Насты Каменскіх**.

## Сакрэты майстэрства

*У межах праекта “Вёска, якая не павінна знікнуць” пенсіянеры з вёскі Перасудавічы Бярозаўскага раёна наладзілі майстар-класы па народных промыслах.*

Любы чалавек, які дбае пра беларушчыну, пагодзіцца — самае наша можна знайсці толькі ў вёсцы. Мадэратары праекта “Вёска, якая не павінна знікнуць” спецыяльна ездзяць па беларускіх вёсках, каб сабраць веды аб нацыянальных промыслах, відах мастацтва.

Перасудавіцкія бабулі, напрыклад, прадэманстравалі сваё ўменне плесці карункі, ствараць рушнікі, дываны. Але самы цікавы сакрэт — рэцэпт рэгіянальнай стравы “товкень”. Гэта бульбянае пюрэ са скваркамі, падсмажанае ў печцы.

## Быць ці не быць драўлянаму Гомелю?

*На пачатку XX стагоддзя Гомель быў амаль цалкам драўляным. Сёння захаваліся толькі адзінкавыя ўнікальныя дамы. Але замест захавання спадчыны ад помнікаў разьбярства плануюць пазбавіцца...*

У бліжэйшы час у Гомелі стане на адзін унікальны будынак менш. Мясцовыя ўлады дазволілі будаўніцтва новай шматпавярхоўкі на месцы дома №17 па вуліцы Волатаўскай. Будынак, упрыгожаны разьбой, знакаміты яшчэ і тым, што ў ім дажывала свой век княгіня **Ірына Паскевіч**. Між тым рашэнне аб зносе гарадскія ўлады адмяняць не збіраюцца. Адзінае, што імкнуцца зрабіць гараджане і мастацтвазнаўцы, — ўратаваць іншыя драўляныя пабудовы горада.

## Бойка за зброю

*Міліцыянеру з Мазыра прыйшлося адстрэльвацца ад п’яных падлеткаў.*

Канфлікт пачаўся, калі жыхар мазырскай шматпавярхоўкі паскардзіўся ў міліцыю на п’яную кампанію. Маладыя людзі так разышліся, што выкідалі з акон рэчы.

Патрапіць у кватэру не змог нават участковы — яму проста не адчынілі дзверы. Прыйшлося выклікаць уласніка кватэры. Але прысутнасць праваахоўніка толькі раз’юшыла моладзь. Хлопцы паспрабавалі адабраць у міліцыянера пісталет! Участковаму прыйшлося адкрыць агонь, каб супакоіць звар’яцелых юнакоў. У выніку адзін з удзельнікаў п’янай кампаніі атрымаў раненне, але яго здароўю нічога не пагражае.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

БЕЗ СРОКА ДАВНОСТИ

# Белорусы, которых ищет Интерпол

*На сайте Интерпола — Международной организации полиции — поисковик выдает 160 фамилий белорусов, объявленных в международный розыск. Среди них есть фигуранты громких уголовных дел, а также те, кто уже давно имеет статус политбеженца.*

### Их считают мошенниками

В феврале этого года бывший белорусский бизнесмен **Александр Горощеня** отметил 50-летие в Праге. А если бы не сумел скрыться от круглосуточной охраны незадолго до начала суда по делу зятя экс-председателя Комитета госконтроля **Зенона Ломатя**, то отметил бы день рождения на нарах...

Когда в отношении зятя высокопоставленного чиновника возбудили уголовное дело, предприниматель Горощеня стал активно сотрудничать со следствием. И давать шокирующие показания против некоторых высокопоставленных чиновников, с которыми был хорошо знаком и даже дружил семьями. Горощеню выпустили под подписку о невыезде, приставили к нему охрану, но... Он умудрился сбежать. Зятя Ломатя осудили, а дело Горощени выделили в отдельное производство. Сегодня Интерпол разыскивает его за мошенничество.

Еще одного бизнесмена — бывшего сотрудника ГАИ **Александра Клеймана** — международная полиция ищет не только за мошенничество. В его карточке на сайте Интерпола в графе “Категория преступления” написано так: *“организованная преступность/транснациональная преступность/подделка документов/мошенничество”.*

Александр Клейман проходил по делу экс-руководителя ДФР **Анатолия Громовича.**

Как сообщалось в прессе, Клейман живет в Польше. И поляки уже несколько раз отказывали в его экстрадиции. Сам бизнесмен, которому в мае этого года исполнится 40 лет, заявляет о политическом преследовании и рассказывает историю о том, что во время президентских выборов 2006 года его отец якобы “*отказался подписывать протокол с фальсифицированными результатами выборов”.*

### Вопрос о выдаче еще актуален?



До сих пор в розыске значится экс-президент некогда одного из крупнейших частных предприятий Беларуси — ЗАО “Пуше” — **Александр Пупейко.** Он эмигрировал из Беларуси в Польшу в 1996 году. Почти через год его задержали в варшавском аэропорту по запросу Интерпола. Бизнесмена обвиняли в вымаливании кредитов и краже в особо крупных размерах — всего на сумму более 12 миллионов долларов. Однако Пупейко из Польши не экстрадировали. Как писали СМИ, из польской тюрьмы его выпустили под залог в 100 тысяч долларов.

В 2001 году Пупейко дал интервью, в котором заявил, что живет в Германии и совершенно свободно передвигается по странам еврозоны.

*“Есть несколько стран, куда я, как и все нормальные люди, въезжаю без виз: Германия, Франция, Голландия и другие,* — говорит он. — *В некоторые — по визам. В Варшаву я приезжаю чаще всего по делам бизнеса. Живу в Германии”.*

Где сейчас живет в прошлом известный бизнесмен — по-прежнему в Германии или, как и раньше, под Варшавой — точно не известно.

По словам работников прокуратуры, периодически вопрос о необходимости выдачи Пупейко Беларуси *“возобновляется, но пока положительного ответа о его выдаче нет”.*



Основательницу финансовой компании “Фико” 47-летнюю **Наталью Судленкову** разыскивают не только за мошенничество и подделку документов. В свое время Наталье было предъявлено обвинение в выманивании кредита в размере 4,5 миллиона долларов.

Сама Судленкова, живущая в Чехии, о своем отъезде из страны в интервью “Белгазете” рассказывала так: *“Мне удалось выехать благодаря нерасторопности белорусской прокуратуры и МВД. Я официально получила паспорт на девичью фамилию, на которую вернулась после развода с первым мужем, паспорт на младшего сына. И мы совершенно легально пересекли границу, где никто нас не остановил”.*

### Кто убил Веронику Черкасову?



Ответа на этот вопрос до сих пор нет. Дело известной журналистки, которую нашли убитой в собственной квартире, превратилось в обыкновенный “висяк”.

На одной из пресс-конференций замгенпрокурора Беларуси заявлял: мол, следствие не исключает, что сын Вероники Черкасовой мог иметь причастность к убийству матери, поэтому объявлен в розыск. Хотя коллеги и близкие журналистки называют эту версию абсурдной. К тому же расследование, которое проводила в свое время “Белорусская деловая газета”, весьма убедительно доказало, что убийство совершил профессиональный киллер, который имитировал обстановку бытового преступления.

Стоит заметить, что сын убитой журналистки — 22-летний **Антон Филимонов** — уже несколько лет живет в Америке.

### Интимная тема

В международной автоматизированной поисковой системе значится и имя 34-летней **Екатерины Дубовик**. Ей вменяют в вину преступления, связанные с торговлей людьми. Стоит заметить, что Катя уехала из Минска после того, как арестовали ее мать — **Киру Атаеву.**



Как сообщала “Народная Воля”, 20 апреля 2007 года Минский городской суд приговорил дочь известного белорусского академика, основателя Института предпринимательской деятельности Киру Атаеву к 12 годам лишения свободы. Она была признана виновной в создании преступной организации и руководстве ее структурным подразделением. Из десяти осужденных по этому делу ей дали самый большой срок. Позже Верховный суд смягчил наказание — срок лишения свободы Атаевой уменьшили на два года.

Своей вины Кира Сергеевна не признала. Она говорила, что многие белорусские девушки ездили в Объединенные Арабские Эмираты добровольно, а несовершеннолетние — исключительно с письменного согласия родителей. Причем, как рассказывали “Народной Воле” некоторые их тех, кого записали в пострадавшие, к Атаевой очереди выстраивались — лишь бы взяла в поездку! На суде некоторые девушки заявляли, что не считают себя потерпевшими, и уверяли, что при первой возможности снова согласились бы на так называемый эскорт-туризм.

В рамках расследования дела о торговле людьми дочь Атаевой не раз приглашали на допросы — в качестве свидетеля. Белорусским следователям Екатерина говорила, что проституцией в ОАЭ не занималась — она замужем, у нее есть дочь. И что в Эмираты она, как и многие девушки, ездила легально — по официальным приглашениям тамошнего Министерства обороны. Когда до Кати дошли слухи, что из свидетелей ее могут перевести в обвиняемые, она уехала в Украину, где живут родители ее супруга. В 2007 году Екатерина Дубовик получила в Украине статус политбеженки. Однако в Киеве ей пришлось совсем не сладко — ее задержали и поместили в следственный изолятор. Причем случилось это практически через месяц после того, как у нее родился второй ребенок. В СИЗО внучка белорусского академика провела больше года. Ее адвокаты дошли до Европейского суда в Страсбурге.

Тем не менее белорусские правоохранительные органы не теряют надежды вернуть дочку Атаевой в Беларусь и посадить за решетку. Если верить написанному на сайте Интерпола, ордер на арест Екатерины Дубовик выдан 10 марта 2006 года.

Казалось бы, самое громкое дело о торговле людьми давно отгремело, некоторые руководители модельных агентств уже условно-досрочно освободились. Однако в Минске вот-вот передадут в суд еще одно дело, которое непосредственно пересекается с делом Атаевой. На сей раз под прицел попала одна из бывших моделей **Саши Варламова**. Судя по всему, девушке тоже грозит немалый срок...

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ



## Александр ГОРОЩЕНЯ: «Чехия не выдаст меня белорусским властям»

*«Народная Воля» разыскала беглеца Александра Горощеню в Чехии и задала ему несколько вопросов.*

— Мои дела идут прекрасно, — *сразу заметил Александр Владимирович.* — Я уже получил здесь постоянное место жительства, у меня на руках имеется решение высшего суда Чехии о моей невыдаче белорусским властям и чешский паспорт, даже водительское удостоверение чешское!

**— А семья?**

— Семья осталась в Минске. Вы думаете, что с ними может что-то случиться? Я скажу так: если у моей семьи будут проблемы, то автоматически проблемы возникнут у ключевых белорусских чиновников. Они прекрасно знают, что мне есть что сказать.

**— Речь идет только о Зеноне Ломате или еще о ком-то?**

— О десятках людей, которые занимают высшие посты в государстве. Я могу рассказать о тех, кто со мной работал и что с этого имел. Я знаю не только о том, как военно-воздушные силы распродавались...

А что касается Зенона Ломатя, то что он может мне сказать? Когда у него с Шейманом началась война, он в силу своей трусости не смог позакрывать некоторые вопросы, поэтому люди, которых ни за что взяли, начали давать показания. В том числе и против него. Я тоже обиделся и вскрыл 28 фактов по Витебской области...

Сейчас мы соблюдаем джентльменское соглашение — они не трогают меня, а я их.

**— Сейчас вы можете уже рассказать, как удалось сбежать из-под охраны? Кто вам помог?**

— Приезжайте в Прагу, расскажу...

**— В Праге уже трудоустроились?**

— Да. Работаю в службе безопасности в крупном торговом центре.

**— Но вы все равно находитесь в розыске — на сайте Интерпола висит ваше фото.**

— Чехия не выдаст меня белорусским властям — в решении суда написано, что мое дело имеет политический подтекст. Не стану скрывать: я предоставил генпрокуратуре Чехии интересные доказательства, из которых следует, что в Беларуси меня хотят арестовать для того, чтобы свести со мной счеты...

**Марина КОКТЫШ.**

РОЗГАЛАС

## Бывай, Ленін!

Не так даўно “Народная Воля” пыталася, каму варта усталяваць помнік, а ад якіх мемарыялаў лепш пазбавіцца. Большасць апытаных выказалася за тое, каб ачысціць краіну ад помнікаў правадыру пралетарыяту Уладзіміру Ільічу Леніну.

На гэтую прапанову нечакана адгукнулася беларуская глыбінка. Як аказалася, у мястэчку Лынтупы, што ў Пастаўскім раёне, у апошнія дні сакавіка знеслі бюст Леніна.

Чаму ад правадыра пазбавіліся — невядома. Але парадокс: сярод жыхароў Лынтупаў ёсць незадаволеныя развітаннем з Леніным.

**Марыя САЦЮК.**

## Са спартыўных чыноўнікаў патрабуюць грошы

“Народная Воля” паспрабавала даведацца ў Міністэрстве спорту і турызму, якую суму грошай вернуць спартыўныя функцыянеры дзяржаве за “турыстычную” паездку зборнай у Венгрыю.

Нагадаем, што нашы шаблісты, якія прыбылі ў Будапешт, не былі дапушчаны да спаборніцтваў па той прычыне, што ў аргкамітэт турніру не паступіла заяўка на іх удзел у спаборніцтвах. Прайшло разбіральніцтва справы, некаторым зрабілі вымовы, было вырашана, што дзяржтрэнер па фехтаванні Ігар Крэнцік будзе вызвалены ад пасады. Акрамя таго, вінаватыя павінны будуць са сваёй кішэні кампенсаваць выдаткі на паездку зборнай.

*“Не магу сказаць дакладна, хто і колькі будзе вяртаць грошай,* — распавядае прэс-сакратар Міністэрства спорту і турызму **Уладзімір НЕСЦЯРОВІЧ**. — *Але адназначна, што патрачаную на паездку суму (некалькі тысяч еўра) вінаватыя кампенсуюць, паколькі грошы выдаткоўваліся з дзяржаўнага бюджэту. Атрымліваецца, што ў Венгрыю каманда з’ездзіла “турыстам”. Ведаю, што механізм вяртання сродкаў будзе абсалютна законным, тут ніякіх пытанняў няма”.*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ТЭАТР

# За Барысам Луцэнкам сочаць...



Так, з а вядомым рэжысёрам па Рускім тэатры цэлы дзень літаральна ходзяць па пятах — Сяргей Кацьер здымае выпуск праграмы “Існасць” аб народным артысце Барысе Луцэнку. Тэлеэфір адбудзецца 6 мая на канале “Беларусь 1”.

Пяць гадоў таму Барыс Іванавіч сышоў з пасады галоўнага рэжысёра Акадэмічнага драматычнага тэатра імя Горкага. Рэжысёр, як вядома, кіраваў тэатрам увогуле (за два перыяды) 25 гадоў. Розныя гады: узлёты, кульмінацыі. А потым, бывала, наступалі “ахаладжэнні пасля перагрэву”. Але, несумненна, быў і залаты перыяд тэатра, калі ў Рускім ішлі пастаноўкі Луцэнкі па вядомых п’есах: “Трохграшовая опера”, “Макбет”, “Трагедыя чалавека”. Велізарны поспех у публікі, у крытыкі, на фестывалях. Несумненна, Луцэнка — гэта эпоха ў развіцці нацыянальнага тэатра.

Але творчы лёс Барыса Іванавіча складваўся няпроста, няроўна. Некалькі разоў яго, літаральна як спрынтара, выштурхоўвалі з бегавой дарожкі, адміністрацыйным рашэннем здымаючы з пасады, звальнялі з тэатра. Гэта адбівалася, не магло не адбіцца, на здароўі, на творчым патэнцыяле. Але рэжысёр адраджаўся зноў... Адкуль чэрпаў сілы? Магчыма, мы пачуем споведзь у тэлепраграме.

Зараз Барыс Луцэнка працуе над новай пастаноўкай па п’есе Фрыдрыха Дзюрэнмата “Візіт старой дамы”. Прэм’ера плануецца ў пачатку наступнага сезона.

А ў свае спектаклі апошніх гадоў — “Мачыха” і “Эдып” — Барыс Луцэнка тэрмінова ўводзіць новую выканальніцу галоўных роляў — актрысу **Анастасію Шпакоўскую.** Справа ў тым, што прыгажуня **Алена Унукава**, якая яшчэ зусім нядаўна бліскуча іграла ў гэтых пастаноўках, з’ехала з Мінска ў Вену і там цяпер будзе жыць з дзецьмі. Яна ўзяла тайм-аўт ад тэатральных падмосткаў на пару гадоў па сямейных абставінах. Такое жыццё...

**Алена МАЛОЧКА.**


Хто замяніць Алену Унукаву?

## *Беларусы супраць смяротнай кары...*

*49,7% беларусаў мяркуюць, што смяротная кара ў краіне павінна быць адменена. Такія звесткі сакавіцкага апытання грамадскай думкі, праведзенага Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (Вільнюс, Літва).*

Сацыёлагі зазначаюць, што ў снежні 2009 года толькі 36,8% беларусаў выступалі за адмену смяротнай кары. Звесткі апытання таксама паказваюць, што за захаванне гэтага віду пакарання сёння выступаюць 40,8% апытаных (54,6% — у снежні 2009 года).

## *...і абыякавыя да чэмпіянату па хакеі*

*Заклікі некаторых беларускіх і заходніх палітыкаў не праводзіць у Беларусі чэмпіянат свету па хакеі ў 2014 годзе, калі да таго часу ў краіне не спыняцца парушэнні правоў чалавека, не сустракаюць масавага асуджэння ў беларусаў.*

Згодна з данымі НІСЭПД, 13,3% апытаных ставяцца да гэтай ініцыятывы станоўча, 37% — абыякава.

## *На Магілёўшчыне знайшлі новыя залежы нафты*

Прыток вуглевадародаў папярэдне ацэньваецца больш як у 20 кубаметраў у суткі. Новыя залежы нафты адкрыты ў Глускім раёне Магілёўскай вобласці.

*“Атрыманая нафта вызначаецца добрай якасцю — яна лёгкая і рухомая з высокім утрыманнем спадарожнага газу”,* — цытуе belta.by намесніка гендырэктара РУП “Белгеалогія” **Яраслава Грыбіка.**

Раней меркавалася, што на тэрыторыі заходняй часткі Прыпяцкага прагіну магчыма заляганне толькі цяжкай і вязкай нафты.

СІТУАЦЫЯ

# Рабочых нацкавалі на апазіцыю

## *Супрацоўніца Мазырскага НПЗ падала ў суд на палітыка Віктара Івашкевіча*

*Супрацоўніца Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода Марына Цыбліенка падала ў суд на палітыка Віктара Івашкевіча. Жанчыну абурыла тое, што Івашкевіч выступіў з заклікам да ўрадаў еўрапейскіх краін увесці эмбарга на транспарціроўку і набыццё беларускіх нафтапрадуктаў. Ён лічыць, што толькі такія меры могуць прымусіць беларускую ўладу выпусціць з турмаў палітвязняў.*

Аб выказванні Віктара Івашкевіча адносна “нафтавых” санкцый звычайная работніца мазырскага НПЗ Марына Цыбліенка даведалася на прафсаюзнай канферэнцыі, дзе была агучана заява ад імя калектыву калег — Наваполацкага “Нафтана”, у якой узгадваліся палітыкі, якія нібыта робяць “падкоп” пад нафтаперапрацоўшчыкаў.

Абураная працаўніца Мазырскага НПЗ не проста прагаласавала за аналагічную заяву ад імя калектыву свайго прадпрыемства, але адразу ж звярнулася ў суд. Яна патрабуе спагнаць з Івашкевіча 500 тысяч рублёў на сваю карысць, бо выказванні палітыка, як яна сцвярджае, нанеслі ёй асабіста маральную шкоду. Таксама Марына Цыбліенка будзе патрабаваць, каб суд прымусіў Івашкевіча адмовіцца ад заклікаў да нафтавага эмбарга.

*“Для нас гэта рэальная пагроза. Вы самі разумееце, што для нас гэта будзе скарачэнне вытворчасці, скарачэнне працуючых. Гэта спыненне заводаў. Заводаў, якія з’яўляюцца не толькі горадаўтваральнымі: ад іх залежыць і вобласць, і краіна — менавіта ад рэалізацыі нашых нафтапрадуктаў”,* — выклала сваю пазіцыю Марыя Цыбліенка ў інтэрв’ю Радыё Свабода.

“Народная Воля” цягам учарашняга дня таксама спрабавала датэлефанавацца да жанчыны, якая ў адзін дзень стала вядома і ў Беларусі, і ў Еўропе. Спачатку нам адказвалі, што “яна выйшла і вось-вось прыйдзе”, але потым працоўны нумар упарта маўчаў... Хаця цікава было б з першых вуснаў пачуць, чым канкрэтна Марыне Цыбліенка нашкодзілі выказванні Віктара Івашкевіча? Чаму менавіта ў 500 тысяч рублёў яна ацаніла свае маральныя пакуты? У рэшцэ рэшт, ці сама яна наважылася на зварот у суд альбо яе нехта настойліва пра гэта папрасіў?..

Сам жа Віктар Івашкевіч пра навіну аб тым, што супрацоўніца Мазырскага НПЗ падае на яго ў суд, даведаўся пасля рэпартажу, які выйшаў на Беларускім тэлебачанні ў праграме “Панарама”.

*“Пры гэтым ніякіх афіцыйных папер я пакуль не атрымаў, невядома, які суд будзе разглядаць гэты пазоў, невядома, што ў іску напісана і якія канкрэтныя прэтэнзіі ёсць да мяне. Таму няма чаго канкрэтна каменціраваць,* — сказаў у чацвер “Народнай Волі” Віктар Івашкевіч. — *Што датычыцца самой з’явы, калі рабочыя выступаюць супраць тых, хто апаніруе ўладзе, то гэта таксама не навіна. Гэта вяртанне ў сталінскія часы. Тады таксама ад імя простых рабочых вялі змаганне са “здраднікамі” і патрабавалі прыцягнуць іх да адказнасці. І сапраўды, знаходзіліся рабочыя, якія быццам бы выступалі ад імя народа. Ва ўсе часы таталітарныя рэжымы прыкрываліся меркаваннем народных мас, ва ўсе часы былі людзі, якія выконвалі загады свайго начальства, лічачы, што той, хто супраць, — вораг. Але і гэта не ўратавала камуністычны лад і савецкую імперыю ад краху...”*

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

ДАСЛОЎНА

### *Марына ЦЫБЛІЕНКА:*

“Справа ў тым, што нам таксама трэба абараняцца, нам таксама трэба жыць. Мы простыя людзі, і мы хочам працаваць. І мы хочам нармальна жыць, спакойна. Я лічу, што гэта не метад — абвясціць байкот нашым нафтапрадуктам”.

### *Віктар ІВАШКЕВІЧ:*

“Калі яны хочуць пазбегнуць матэрыяльных страт, то ім варта звяртацца не да Івашкевіча, а ў Адміністрацыю прэзідэнта. Рабочым трэба запатрабаваць, пакуль не ўвялі эканамічныя санкцыі ў дачыненні да іх прадукцыі, тэрмінова выпусціць усіх палітвязняў”.

ТЫМ ЧАСАМ

*Юрый ШВЕЦ, старшыня незалежнага прафсаюза Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода:*

## *«Чаму яна не звярталася ў суд пасля дэвальвацыі?»*

*— Шчыра кажучы, мяне здзіўляе ўся гэтая гісторыя з іскам Марыны Цыбліенка да Віктара Івашкевіча. Мне цяжка таксама зразумець, пра якія маральныя пакуты тут можна гаварыць...*

*Па-першае, я рэгулярна бываю на нарадах з удзелам кіраўніцтва прадпрыемства і вось што скажу: пытанне нейкіх санкцый на парадку дня не стаіць, ніхто асабліва не хвалюецца, не перажывае...*

*Па-другое. Калі былі ўведзены апошнія санкцыі да шэрагу грамадзян і кампаній, што належаць прыватным асобам, якіх называюць “беларускімі алігархамі”? Правільна, яшчэ напрыканцы сакавіка. Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод, дзякуй Богу, не трапіў пад санкцыі.*

*Як грамадзянін Беларусі, я сапраўды шкадую, што ёсць грамадзяне і прадпрыемствы, якія трапілі ў нейкі “чорны спіс”. Але мяне непакоіць іншае: дзе была Марына Цыбліенка, дарэчы, сябра афіцыйнага прафкама нашага прадпрыемства, калі расіяне ўвялі пошліны на нашы нафтапрадукты, мякка кажучы, моцна скарэктаваўшы гэтым прыбытак Мазырскага НПЗ? Дзе яна была, калі ў краіне адбылася аднамомантная дэвальвацыя? Чаму тады не падавала ў суд?*

*Дзіўна... І гэта мякка кажучы.*

“Народная Воля” таксама паспрабавала даведацца, што думаюць пра пазоў Марыны Цыбліенка ў цэхах і аддзелах прадпрыемства. Пасля абзвону можна зрабіць выснову: на Мазырскім НПЗ мала хто ведае пра будучы суд паміж Віктарам Івашкевічам і прадстаўніцай завода. “Нічога не ведаю, першы раз чую”, — гэта быў стандартны адказ, які даводзілася чуць на ўсе пытанні.

ПРОБЛЕМА!

*Владимир ДУНАЕВ, профессор:*

# «Наше государство уходит от финансирования образования все дальше и дальше»

***Высшая школа Беларуси на пороге новых реформ. Министерство образования предлагает сократить сроки получения диплома до четырех лет и увеличить плату за обучение по специальностям, где есть переизбыток специалистов.***

***С этих ли шагов надо начинать реформирование и как они стыкуются с планами Беларуси по вхождению в Болонский процесс?***

***Наш собеседник — профессор философии Владимир ДУНАЕВ.***



**— Владимир Александрович, одна из последних инициатив Министерства образования — увеличить стоимость обучения для студентов, избравших невостребованные сегодня рынком специальности — юристов, экономистов. На ваш взгляд, это нормальное регулирование рынка труда?**

— Регулировать можно по-разному. Например, в Эстонии это решается несколько иначе: там обучение на востребованных специальностях делают бесплатным. Сегодня во всем мире это одна из серьезных проблем: как заставить студентов идти на технические и естественнонаучные специальности. Характерна она и для Беларуси. Перед Министерством образования стоит задача довести до 30 процентов численность студентов, которые овладевают техническими специальностями. Всем понятно, что стимулировать приход туда вчерашних школьников — задача непростая, но, на мой взгляд, решать ее за счет такого перекоса цен — это не совсем правильный подход. Лучше было бы наоборот: снизить цены за учебу на технических факультативах или вовсе сделать ее бесплатной.

**— А не кажется ли вам, что в Беларуси переизбыток высших учебных заведений? Зачем нам вузы в маленьких городах, где никогда не было академического сообщества? Да и учиться там скоро будет некому. В этом году школу заканчивает ориентировочно 65 тысяч человек, а мест в вузах на первых курсах — более 100 тысяч.**

— Действительно, в университетах небольших городов не хватает кадров, чтобы обеспечить качественную подготовку студентов. Эти учебные заведения создавались на пустом месте, под определенную политическую задачу: чтобы приблизить университеты к той среде, которая выглядела для власти лояльной — к студентам из провинции, сельской местности. Это был ответ власти на те тревоги, которые возникли у нее после выборов 2001 года, когда обнаружилось, что студенты представляют собой оппозиционную группу.

Но, с другой стороны, это общемировая тенденция — делать высшее образование более доступным. И в этом смысле такое региональное размещение университетов — общемировая тенденция, хотя всем понятно, что университет в провинции, скорее всего, будет менее качественным, чем в столице. Кроме того, в современных условиях те критерии оценки высшего образования, которые есть, — а они в основном ориентированы на элитное, элитарное высшее образование, доступное лишь немногим, — не работают. Сегодня современная экономика, современное обществознание требуют все больше и больше специалистов с высшим образованием. Прогнозируется, что в скором времени эта потребность составит 90 процентов. В Финляндии, например, вводится всеобщее высшее образование — программа бакалавриата. Поэтому претензии к качеству высшего образования должны быть не только к студентам, к их слабой подготовке, но и к университетам, которые не вполне готовы учить студентов в таком количестве. И эта проблема не только белорусских вузов.

Моделью для понимания, что переживает сегодня высшая школа, может служить введение всеобщего начального образования в XIX веке: тогда тоже столкнулись с проблемой массовости, неготовностью школы обеспечить хотя бы минимальное качество, когда больше половины тех, кто шел в школу, не могли освоить программу. Но сегодня никто не говорит, что начальное образование — это удел избранных.

**— Как тогда на фоне потребности во всеобщем высшем образовании реагировать на то, что в Беларуси растут цены на его получение?**

— Государство действительно уклоняется от ответственности, сокращая финансирование высшего образования. Причем использует для этого любые предлоги и уловки. И это, к слову, противоречит задачам Болонского процесса на ближайшее десятилетие, где пытаются расширить государственное участие в финансировании высшей школы, но при этом не нарушать главный принцип, что государство не должно диктовать вузам свои условия. Высшая школа должна быть автономной.

Что касается роста цен, который происходит в Беларуси на услуги образования, то я бы не сказал, что он сумасшедший. Он компенсирует девальвацию рубля, хотя, безусловно, опережает рост зарплат. Кредиты же на образование очень неудобны и по условиям предоставления, и по условиям их выплаты. Наш выпускник на второй день, как получил диплом, уже должен выплачивать кредит. И это отличает Беларусь от большинства стран, где есть отсрочка начала выплаты кредита. Например, в Великобритании выплата кредитов начинается после того, как молодой специалист начинает зарабатывать не менее 15 тысяч фунтов в год. Если этого не происходит, то и выплачивать кредит не надо, поскольку считается, что его за эти деньги не научили тому, чему должны были научить. Также есть отсрочка в Польше, других странах. Поэтому если мы хотим облегчить участь молодых людей, готовых платить за образование, то надо подумать, как сделать кредиты более удобными и посильными.

**— На ваш взгляд, стремление молодых белорусов учиться за границей — это недоверие к качеству высшего образования в Беларуси или просто желание уехать из страны?**

— Если опрашивать студентов, довольны ли они своим образованием, то подавляющее большинство — и в Беларуси, и в других странах — продемонстрирует достаточно высокий уровень удовлетворенности. Но это не является оценкой качества, зачастую студент не в состоянии оценить качество своего образования. Проблема качества очень серьезная. Уезжают, наверное, потому, что недовольны не столько образованием, сколько перспективами в стране. Если человек считает, что ему где-то будет лучше, чем дома, он будет стремиться поехать туда учиться, потому что в дальнейшем это повышает его шансы найти работу за границей. Думаю, что в этом нет ничего катастрофического, потому что есть утечка мозгов, а есть циркуляция умов, и сегодня все понимают, что это благо. Но если мы не создаем условий для возвращения — это опасно... Например, в Казахстане есть президентская программа мобильности студентов, по которой казахская молодежь едет учиться в престижные университеты Европы, США. И что показательно: почти стопроцентно они возвращаются домой, потому что дома с таким образованием могут получить хорошую, высокооплачиваемую работу. Чаще всего они работают в иностранных компаниях. И в Казахстане нет проблемы утечки мозгов.

**— А у нас разве нет таких программ?**

— В год 50 студентов из Беларуси едут учиться за границу по обмену. Это слезы. Государство не заинтересовано обеспечить страну профессионалами, которые позволят добиться лучших производственных результатов. Если говорить о качестве образования в наших вузах... На мой взгляд, если бы у нас был доступ работодателей, самих студентов к управлению процессом подготовки кадров, к формированию учебных планов, их превращению из обязательных программ к тем, когда студент может сам планировать свою образовательную траекторию с учетом своей будущей карьеры, тогда мы могли бы говорить, что качество образования повышается в соответствии с запросами рынка труда. Пока же у нас этого не происходит. Роль работодателей очень незначительна, они бесправны, если их и включают в попечительские советы, то для того, чтобы они были кошельком для университета. Никаких прав они не имеют, ни на что не влияют. Наше государство уходит от финансирования образования все дальше и дальше, а те, кто участвует в его финансировании, не имеют тех полномочий, которые они должны иметь как доноры образования.

Семьи студентов, сами студенты, работодатели должны требовать равных прав с государством в планировании управления высшим образованием. А этого нет. Их фактически не допускают к управлению высшим образованием. Наше высшее образование по закону вроде бы государственно-общественное, а реально общественность не имеет никаких полномочий, чтобы управлять, у нее нет функций, чтобы принимать решения.

**— То есть не соблюдаются основные критерии Болонского процесса — автономность вузов, их независимость от государства и студенческое самоуправление. Но при этом раздуваются заявления, что нас не берут в общеевропейское образовательное пространство по политическим мотивам...**

— Не надо идеализировать Болонский процесс, чтобы не получилось, как у Ильфа и Петрова: “Радио есть, а счастья нет”. Болонский процесс — это коллективный опыт решения тех проблем, которые стоят перед современным высшим образованием. Включиться в этот коллективный поиск — это правильно. Но надо отдавать себе отчет, что Беларусь очень сильно отстала... Болонский процесс идет более 10 лет, мы пытаемся догнать поезд, который уже ушел. Но если нам так трудно принять помощь с Запада, можно обратиться к опыту наших соседей, с которыми мы организовали Таможенный союз, — России и Казахстана, где прошли очень серьезные реформы высшего образования.

Но в Беларуси, на мой взгляд, сознательно не замечают конфликта ценностей, который есть между болонской моделью и белорусской. И если так будет продолжаться, то мы и в Болонский процесс не попадем, и собственную систему не реформируем ради самих себя. Я убежден, что и сами университеты, и ректоры заинтересованы в таких реформах, потому что они также бесправны, как и все в университетах.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## *Як Станіслаў Шушкевіч да Вашынгтона даехаў?*

***Нядаўна пачуў, што Станіслаў Шушкевіч, якому ўлады забаранілі выязджаць па-за межы Беларусі, пабываў у Амерыцы. А як жа ён, невыязны, праехаў праз мяжу?***

**Ігар КІРЧУК, Мінскі раён.**



Як распавёў амерыканскім журналістам сам Станіслаў Станіслававіч, напярэдадні паездкі ён, здагадваючыся, што ягоны мабільны тэлефон, хутчэй за ўсё, праслухоўваецца беларускімі спецслужбамі, наўмысна абзваніў некаторых сваіх знаёмых і сяброў і сказаў, калі і на якім цягніку едзе ў Маскву. А насамрэч перасёк беларуска-расійскую мяжу на аўто. Даехаў да Літвы і адтуль на самалёце — у Вашынгтон.

**Вера ВІР.**

КРЫМІНАЛ

## *Абрабавалі манастыр*

Аддзелам Следчага камітэта па Цэнтральным раёне Мінска распачата справа па факце ўчынення буйнога крадзяжу са Свята-Елісавецінскага манастыра ў Мінску.

Як паведамілі БелаПАН у праваахоўных органах, двое невядомых праніклі ў катэдж з офіснымі памяшканнямі манастыра, звязалі ахоўніка і выкралі грошы і камп’ютарную тэхніку больш як на 140 мільёнаў рублёў.

ДИСКУССИЯ

# Об «Открытом письме» Романа Ананьева

Уважаемый главный редактор!

Хотелось бы на правах читателя "Народной Воли" кратко прокомментировать "Открытое письмо" Романа Ананьева, опубликованное недели полторы назад.

**Первое.** Вместо просьбы о добровольном лишении "права на въезд в страны демократического Европейского Союза" почему бы ему публично не продекларировать добровольный отказ от въезда туда: не ехать ни при каких обстоятельствах, ни по каким причинам. Вот это был бы вызов европейским демократам!

**Второе.** Детям и внукам "тех, кто был сожжен в Хатыни, замучен в концлагерях", хотелось бы сказать: хватит уже спекулировать на священной памяти о жертвах и подвигах предков своих и не своих. Я не считаю себя причастной к раздаче наград, льгот и т. д. за подвиги моих дедов (оба погибли на той войне). Призываю и вас, "детей и внуков", последовать в этом моему примеру. Может, дедам и отцам кто-то что-то должен, но не мне и не вам, господин Ананьев.

**Третье.** Если "руководству Германии" Роман Ананьев где-то, как-то, за что-то, возможно, может предъявить претензии, то при чем тут "Польша, Литва, Латвия, Словакия, Чехия"?

**Четвертое**. К вопросу о примирении. Моя прабабушка, деревенская женщина, потерявшая на той войне двух сыновей, сама не раз находившаяся на волоске от смерти, всегда говорила, что немцы не хотели воевать, это Гитлер проклятый их заставлял. В немецких солдатах эта белорусская женщина видела прежде всего чьих-то детей, жестоко обманутых пропагандой. В таком духе она в свое время воспитывала и меня. Чем и перед кем рисковали деятели по реализации программы "по примирению"? Могу точно сказать, что от моей семьи и моих односельчан рисков не исходило. К тому же лично я, как часть народа, не вижу вины перед собой "новой элиты Германии".

**Пятое.** Хотелось бы прокомментировать абзац про Польшу, где автор часто бывает, имеет там родственников. К сожалению, не поняла, что автор хотел этим сказать. А вот с тем, что "становление и возрождение" этой страны было демократическим, я согласна.

**Шестое.** Из повествования про Литву и Латвию не понятно, что все-таки лучше: "реальные деньги", "гуманитарный обмен" или "мифические евро"? Рискну высказать свое мнение о Греции, проблемы которой, по моему мнению, не в присоединении к Евросоюзу, а в недостатке демократических традиций по причине длительного существования там тоталитарного режима. Нынешнее положение этой страны — предупреждение всем, не ставшим на путь демократии.

**Седьмое.** Прошу Вас, господин Ананьев, не выступать от имени всего народа ни по событиям 19 декабря 2010 года, ни по вопросам амнистий, ни по поводу иных законодательных актов. Будучи частью этого народа, хочу сказать, что мое мнение далеко не совпадает с Вашим.

**Восьмое.** Показательно, по моему мнению, выражение "о долларовой зарплате". Явно автор твердо уверен (и никто его не может разубедить) в том, что долларовая и наша рублевая зарплаты находятся в разных весовых категориях. Здесь я полностью с Романом Ананьевым согласна.

**Девятое.** До израильского уровня жизни по всем статьям нам, как говорят некоторые в деревне, "как до Китая раком". К сожалению, не с моим заработком мечтать о посещении Израиля, но об их жизни знаю хорошо от дочерей "не только еврейского, но и белорусского народа", подруг по институту, ныне проживающих там. Несмотря на все сложности израильской внешней и внутренней политики, эта страна в такой изоляции, как наша "памяркоўная" Синеокая, в настоящее время не находится. Восхищаюсь израильской системой отбора руководящих кадров на жесткой конкурсной основе, что позволяет становиться руководителями сильнейшим, лучшим, а не заплесневелым и не умеющим грамотно писать на государственном языке.

**Десятое.** Общее впечатление от "Открытого письма": автор на скорую руку выполнил чей-то заказ.

**Диана КОСТЮКОВИЧ.**

*п.Муховец Брестского района.*

АД ДУШЫ

## *Дзякуй Вам, Алесь Няўвесь!*

Я даўно чытаю "Народную Волю". Не магу без яе. Праз газету хачу выказаць падзяку Алесю Няўвесю.

Як толькі атрымліваю свежы нумар газеты, то перш за ўсё шукаю "Калонку Алеся Няўвеся". Я проста ў захапленні! Гэта наш Крылоў. Які талент! Як так можна ў форме верша рэагаваць на ўсе з'явы, якія адбываюцца сёння ў нашым жыцці?

Дзякуй Вам, Алесь Няўвесь, за Вашы вершы! Пішыце, а мы будзем чакаць і чытаць з вялікай цікавасцю.

Здароўя Вам, доўгага жыцця і творчых поспехаў!

**Таццяна ВІНАГРАДАВА.**

*Кобрынскі раён.*

**P.S.** *Яшчэ хачу выказаць сваю думку наконт выбараў у парламент. На мой погляд, патрэбна, каб на кожнага кандыдата быў асабісты бюлетэнь. Напрыклад: я бяру на трох кандыдаў тры бюлетэні. Свой голас за выбранага апускаю ў урну, а астатнія рву і кідаю ў кошык для смецця. Толькі трэба, каб хтосьці за гэтым сачыў. Бюлетэні павінны быць рознакаляровымі. Тады і лічыць будзе проста.*

## *Дай ёй Бог...*

Паважаны Іосіф Паўлавіч!

Дазвольце праз Вашу газету сказаць вялікі дзякуй нашай выдатнай пісьменніцы Святлане Алексіевіч за яе падарунак мне — праўдзівыя творы пра вайну "У войны не женское лицо" і "Последние свидетели". Дай ёй Бог моцнага здароўя і доўгіх год жыцця на карысць нашай Радзімы - Беларусі!

**Алесь ЗАРАНОК,
жыхар в.Сырод
Калінкавіцкага раёна.**

ШЧЫРА

# «Воля» паланіла мяне...

Шаноўная рэдакцыя!

Хачу шчыра прызнацца: я закахаўся ў вашу "Народную Волю", быццам юнак у цнатлівую дзяўчыну.

Спачатку купляў газету ў кіёску, але праз які месяц пераканаўся, што лепш за ўсё быць пастаянным падпісчыкам, бо гэта выратоўвае ад непрыемнасцяў нават у тым выпадку, калі маеш дамоўленасць з кіяскёрам — то клопаты не дазваляюць бегчы ранкам да запаветнай кропкі, то абяцанне не стрымліваецца з-за мноства жадаючых набыць "Волю". І вось ужо працяглы час я гарантавана дастаю з паштовай скрыні сваю газету-любіміцу і чытаю, як казалі ў маёй рагачоўскай вёсцы, ад коркі да коркі: мяне заваражвае літаральна ўвесь падбор публікацый. Спынюся толькі на адной з іх.

Мне, як былому работніку сельскай гаспадаркі, надта спадабаўся артыкул Яўгена Салаўёва "Огороды" академика Владимира Солдатова". Я нават не ўяўляў, што можа быць такое адкрыццё, як гэтая загадкавая "Біёна". Калі беларусы выйдуць на прамую лінію па вытворчасці такога эліксіру ўрадлівасці, дык наша Беларусь з нашымі пакуль яшчэ ў асноўным працавітымі людзьмі стане непазнавальнай. У парадку ўласнай ініцыятывы я спрабаваў звязацца з тымі былымі калегамі, якія маюць сувязі з фермерамі і ўплывовымі людзьмі горада і вёскі, каб параіцца, што можна і трэба зрабіць ва ўмовах Гомельшчыны, каб выйсці на тыя запаветныя 20 тон глебы-эліксіру, якой пакуль не маюць ні Расія, ні Амерыка, ні іншыя краіны свету.

У якасці прыкладу я прывёў толькі адну публікацыю з дзясяткаў, а можа, і сотняў тых, якія мне вельмі і вельмі спадабаліся. Я ўжо не гавару пра высокую грамадзянскую пазіцыю калектыву рэдакцыі — тут усё само сабой зразумела і выразна праглядваецца на старонках кожнага нумара ўдумліва спланаванай газеты. Так трымаць, паважаныя народавольцы!

**Дзмітрый Паўлавіч ЗЕЛЯНКОЎ,
жыхар г.Гомеля.**

### АД РЭДАКЦЫІ

*Дзмітрый Паўлавіч! Будзем шчырымі — прыемна атрымліваць такія лісты. Дзякуй Вам! Але ж мы разумеем: можна рабіць "Народную Волю" яшчэ больш цікавай. І да гэтага мы імкнёмся. Хацелася б толькі, каб чытацкая аўдыторыя пашыралася. Агітуйце, шаноўны Дзмітрый Паўлавіч, людзей, райце ім стаць нашымі пастаяннымі падпісчыкамі. Дарэчы, лепшы падарунак для сваякоў, сяброў, саслужыўцаў — гэта падпіска на "Народную Волю", якую, скажам, на май можна аформіць у любым паштовым аддзяленні да 27 красавіка. Адным словам, руку — на сяброўства!*

# Дзе ўзяць новую?

## *Адказ тым, хто бэсціць апазіцыю*

*Цяпер пайшла такая мода:
Ад прытаптанага народа
Той-сёй пачаў лямантаваць:
Час апазіцыю мяняць.
Не мае сіл. Не ўся сядзіць.
Душа ў душу не ўмее жыць.
Ніяк на цэны не ўплывае...
Такая, значыцца, сякая...*

*Ану яе! Мы тут бядуем,
Адну лухту з экранаў чуем.
Як нашы чайнікі кіпяць!
Не крытыкнём — не можам спаць.*

*Скажу: вы гэту не кляйміце,
А новую сабе стварыце.
Зваяйце ўрэшце. Нарадзіце.
Знайдзіце у высокім жыце.
Скажыце: "Нашы лепш за ўсіх!"
Ды на алімп узводзьце іх.*

*Тады мо ў той, якая ёсць,
Праявіцца святая злосць.
І ўсе мы разам, грамадою,
З агульнай справімся бядою.
А покуль што — з кішэняў дулі
Дастаньце.
Вы мяне пачулі?*

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

*Мінск.*

ЭХО

## *За что драть деньги с патриотов?*

25 марта, в День 94-й годовщины Белорусской Народной Республики, в Минске люди прошли по разрешенному маршруту, чтобы принять участие в митинге рядом с площадью Бангалор. И за это нужно уплатить городским властям несколько миллионов рублей. За что драть с патриотов такие деньги?! Та же милиция и без того содержится за счет народных средств, как и коммунальные службы. Это же можно сказать и о медиках со "скорой помощи", пожарных и т.д.

Я вижу здесь политическую подоплеку. Видимо, власти предержащие считают, что те, кто участвовал в демонстрации и митинге, должны сидеть в тюрьмах и не думать, что они свободны.

**З.СЕНЬКО.**

*г.Мозырь.*

ПЕРАПІСКА

## *Начальнік парушае закон — да адказнасці!*

Дзіўны ліст... Ананімны... "Коллектив работников" Мінскага трактарнага завода выкрывае начальніка аднаго з галоўных цэхаў. У чым ён толькі не абвінавачваецца! Бярэ бальнічны ліст — і ляціць адпачываць за мяжу. Трымае вакол сябе "группу прихвостней", а на тое, што думае большасць людзей, — напляваць. Нязгодных запалохвае: заўтра будзеце звольнены...

Шаноўныя аўтары ліста! На старонках "Народнай Волі" ананімна не ваююць. Калі ў вас ёсць дакументальныя пацвярджэнні тых фактаў, якія вы прыводзіце — выкладвайце на стол генеральнаму дырэктару аб'яднання, пракурору, начальніку міліцыі... Што, нельга прыцягнуць да адказнасці чынушу, які парушае законы? А паспрабуйце! Вы — сіла, на вас трымаецца завод! Хочаце жыць па справядлівасці — змагайцеся адкрыта, а не з-за вугла.

З НАТУРЫ

# Наша класіка — не горшая!

Днямі апынуўся ў прыёмным пункце макулатуры. А зазірнуў я туды ў пошуках двухтомнага "Географического атласа офицера", у якім прадстаўлены дробнамаштабныя карты па ўсіх частках свету, па ўсіх краінах, што дае магчымасць знаходзіць беларускія тапонімы не толькі ў Еўропе, але і ў далёкай Амерыцы і ў глыбінях Азіі. І тапонімам тым і тут, і там па некалькі стагоддзяў. І хаваюць яны ў сабе мноства загадак. Вядома, такое выданне мэтазгодна шукаць у букіністаў, бібліяфілаў і г.д. Але сёння так памяняўся свет, што добрую літаратуру розных родаў і відаў, жанраў і форм, канцэптаў і фарматаў можна знайсці і ў пункце прыёму макулатуры. Тут сустракаецца ўсё: і мастацкая, і навуковая, і навукова-папулярная, і іншая літаратура.

"Раней людзі рупліва збіралі макулатуру (старыя газеты, часопісы і іншае), каб атрымаць талоны, а потым па тых талонах набыць літаратурную (пераважна — мастацкую) класіку, а сёння гэтую класіку здаюць у якасці макулатуры, каб за атрыманыя грошы атаварыцца чарнілам", — распавядаў мне прыёмшчык макулатуры Аляксей.

Вядома, класіку тут кладуць на вагі і адпаведна вазе атрымліваюць свае грошыкі ад прыёмшчыка і адразу шыбуюць у вінна-гарэлачныя аддзелы магазінаў, балазе іх тут не пералічыць. А ёсць яшчэ іншыя людзі... Яны не здаюць кнігі, а з дазволу прыёмшчыка перабіраюць здадзены "тавар" і адбіраюць для сябе неабходнае і дарагое. Праўда, зноў жа за плату. Атрымліваецца так, што ўжо нібыта яны прымаюць макулатуру ў прыёмшчыка. Канечне, у цане самі добраахвотна крышку падвышаюць.

Пакуль мы з прыёмшчыкам разважалі ў гэтым рэчышчы, у дальнім куце, стоячы на коленцах, прыемны на выгляд мужчына гадоў 40—50 корпаўся сярод развязаных стосаў кніг і адбіраў патрэбнае для сябе. Запытаўшыся ў Аляксея дазволу зірнуць, што там за прадукцыя, я падышоў да чалавека над кнігамі. А з кніг — чаго і каго там толькі не было! Гэта і І.Ганчароў, І.Тургенеў, і тры Талстых (Л.М., А.К., А.М.), і У.Маякоўскі, і К.Паўстоўскі, і Я.Яўтушэнка, і Э.Заля, і А.Дзюма, і Л.Фейхтвангер, і іншыя, і іншыя. І паасобныя аднатомныя выданні, і тамы са збораў твораў. З гэтага мноства кніг можна было б і збор твораў каго-небудзь укамплектаваць. Калі я нахіліўся над кніжнымі залежамі, мужчына, падняўшыся з каленяў, раўніва глянуў на мяне і, паказаўшы на акуратна складзены кніжны стос, сказаў, што гэта ён ужо адабраў для сябе. А ў тым стосе былі сем тамоў з 9-томнай КЛЭ ("Краткой литературной энциклопедии"), чатыры з пяці тамоў "Философской экнциклопедии", "Определитель культурных растений", "Определитель растений дикой природы", некалькі тамоў "Жизни животных" і яшчэ штосьці фундаментальнае і дыхтоўнае, чаго я не змог адразу на вока вызначыць. А завяршаў той стос зборнік Якуба Коласа з паэмамі "Новая зямля" і "Сымон-музыка", выдадзены колькі год таму ў Мінску ў серыі "Народная бібліятэка". Апушчанага ў той момант амаль у стан прастрацыі і дэпрэсіі, мяне гэта прыемна і моцна ўразіла. Я спытаў адбіральшчыка кніг, чаму ён халодны да мастацкай літаратурнай класікі, што ляжыць пад нагамі. У адказ ён мякка і лагодна ўсміхнуўся, потым, глянуўшы на том нашага слыннага песняра, вымавіў: "А гэта хіба не яна? Наша класіка ніколькі не горшая. А як для мяне, дык і лепшая. А астатняе іншыя падбяруць, калі прыйдуць". Мне толькі і засталося, што паціснуць яму руку.

Здаўшы на кантроль Аляксею сваё пытанне аб "Географическом атласе офицера", я пайшоў далей — па сваіх справах.

**Яўген ГУЧОК.**

ВІНШУЕМ!

# 102!



Беларусь дала свету шмат вядомых імён, але імя Барыса Кіта займае сярод іх адно з першых месц. Пералічэнне званняў вядомага навукоўца, сусветна вядомага ў галіне астранаўтыкі, матэматыкі, фізікі, хіміі, заслужанага прафесара Мэрылендскага ўніверсітэта (ЗША), акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, члена камітэта міжнароднай Акадэміі астранаўтыкі ў Парыжы, уладальніка медаля імя Оберста і так далей, і так далей заняло б палову паласы газеты. Сам жа Барыс Кіт заўсёды кажа: "Усё, што я зрабіў, — для Беларусі".

Цяпер наш славуты зямляк жыве ў нямецкім Франкфурце-на-Майне. Неаднойчы ён казаў, што калі б застаўся ў Савецкім Саюзе, то яго жыццё скончылася б значна раней — у ГУЛАГу. Чалавек, які валодае шэрагам еўрапейскіх моў, беларускую называе сваёй роднай і кажа, што яна самая мілагучная з тых, якія ён чуў у сваім жыцці. На гэтай мове ён размаўляў у сваім дзяцінстве, якое прайшло ў гістарычных мясцінах Бацькаўшчыны — Карэлічах, Навагрудку, Міры. Пасля заканчэння фізіка-матэматычнага факультэта Віленскага ўніверсітэта малады Барыс працаваў настаўнікам. У часы фашысцкай акупацыі ён, як і яго землякі, спазнаў усе цяжкасці вайны, нават трапіў у гестапа і ледзь уратаваўся.

Напрыканцы 40-х Барыс Кіт стаў грамадзянінам ЗША. Даследаванні Барыса Кіта прынеслі яму вядомасць і аўтарытэт не толькі ў навуковых колах. Пасады кіраўніка навуковай групы аддзела астранаўтыкі Міністэрства ваенна-паветраных сіл ЗША з 1958-га па 1963 год і старшага эксперта-даследчыка Дзяржінстытута сістэмнага аналізу міністэрстваў абароны і транспарту ЗША з 1968-га па 1972 год, а таксама ўдзел у засакрэчаных распрацоўках на доўгі час зрабілі немагчымымі яго кантакты з радзімай. Супрацоўнікі КДБ наведвалі тады яго бацьку і казалі, што яго сын Барыс можа смела ехаць у БССР, але ўсе разумелі, што рабіць гэтага нельга. Наш зямляк быў адным з куратараў першых савецка-амерыканскіх перамоў у галіне касманаўтыкі. Барыс Кіт прыгадваў: *"Першая двухбаковая сустрэча паміж СССР і Амерыкай, на якой прысутнічала група савецкіх акадэмікаў і міністраў, адбылася ў 1960 годзе ў вашынгтонскім "Шэратон-Парк-Гатэль". Абсалютна ніякай палітыкі там не было. Мы вялі выключна навуковую справу. Атмасфера была вельмі дружалюбнай, і я ганаруся, што быў старшынёй гэтага гістарычнага сходу".*

Доўгатэрміновым вынікам тых перамоў стаў запуск у 1972 годзе савецка-амерыканскай праграмы "Саюз"—"Апалон".

Наш зямляк наведаў сваю радзіму на пачатку 90-х, калі Беларусь стала незалежнай. Ён стаў Ганаровым грамадзянінам Навагрудка і Ганаровым прафесарам Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. У Навагрудскім музеі захоўваецца каля 600 экспанатаў, якія Барыс Кіт перадаў сваім землякам, — публікацыі, фотаздымкі, узнагароды...

Са 102-м Днём народзінаў, Барыс Уладзіміравіч! Пажадаем моцнага здароўя нашаму славутаму суайчынніку!

**Даратэя СОЛТАН.**

ЛЁСЫ ЛЮДСКІЯ

# Расправа,

## *альбо За што расстралялі дырэктара школы*

Аднойчы, у гады ваеннага ліхалецця (стаяў сонечны вераснёўскі дзень 1943 года), у нашу вёску Домантавічы Капыльскага раёна прыйшла бяда. Я стаў сведкам пахавання сямейнай пары — дырэктара Быстрыцкай пачатковай школы Аляксандра Кірылавіча Нікалаені (родам з вёскі Лешня) і яго жонкі Фядоры Афанасьеўны (родам з нашай вёскі), якіх расстралялі партызаны. Прыйшлі ноччу ў хату і расстралялі.

Мне тады ішоў сёмы год. Але ў памяці захавалася пытанне: за што іх расстралялі? Каго б я ні пытаў, быў адзін адказ: за невыкананае заданне. А якое заданне? Ніхто не ведаў: ні сведкі гэтай падзеі Зіна Нечай, Нэля і Мікола Мартынчыкі, ні наш аднавясковец, былы партызан атрада імя М.А.Шчорса 27-й брыгады імя В.І.Чапаева (камандзір М.А.Шастапалаў, камісар Н.Д.Емяльянаў) Васіль Данілавіч Стасевіч. Але сведчанні апошняга мне ўсё ж дапамаглі яго разгадаць. Пры гэтым прыйшлося звярнуцца да падзей таго часу, якія былі зафіксаваны ў кнігах: "Памяць" (гісторыка-дакументальная хроніка Капыльскага раёна, 2001 г., сс.233, 261), "Людзі СБМ" Юрыя Туронка (2008, с.37, 40, 111); "Мадэрная гісторыя Беларусі" Юрыя Туронка (2006, с.689) і іншыя.

Як вядома, генеральны камісар Беларусі Вільгельм Кубэ заснаваў Саюз беларускай моладзі (СБМ) у чэрвені 1943 года як школу патрыятычнага *"выхавання і перавыхавання моладзі ў беларускім нацыянальным антыбальшавіцкім духу і шырокае выкарыстанне ў адбудове беларускай гаспадаркі"* (выступленне Кубэ на красавіцкай (1943 г.) нарадзе ў Мінску (Веснік Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, Мінск, серыя 3, 1994, №1) і якая мела ўскосныя дачыненні да пытання вярбоўкі працоўнай сілы ў Германію. Таму Кубэ *"не спяшаўся з адпраўкай моладзі ў Нямеччыну і спрыяў развіццю сеткі сярэдніх школ, навучэнцы якіх вызваляліся ад працоўнай павіннасці"* (Ю.Туронак, с.37).

Вось як пісала тагачасная вучаніца Слонімскай прагімназіі Надзея Дземідовіч: *"СБМ павярнуў нас да беларускай духоўнасці. Мы адчулі, што ў нас ёсць свой Край, свая мова, свая Гісторыя, што з нас не будуць у школе рабіць ані палякаў, ані расейцаў, ані немцаў. У нас былі настаўнікі, якія размаўлялі гэтак жа, як і нашыя бацькі ў хаце, і ўпершыню ніхто не папракаў нас, што мы "хамы"* (Дземідовіч Н. "Век так не будзе", Мінск, 2002, с.41; Ю.Туронак, с.111).

Менавіта гэтыя дзеянні Кубэ і сталі прычынай яго забойства, якое здзейснілі партызаны 22 верасня 1943 года.

Менавіта з мэтай асветы *"ў Генеральнай акрузе Беларусь былі арганізаваны пачатковыя і сярэднія школы, якія з цяжкасцямі, абумоўленымі ваенным становішчам, рэалізоўвалі адукацыйную праграму, але не мелі сродкаў і іншых магчымасцяў арганізоўваць мерапрыемства пазашкольнага выхавання"* (Ю.Туронак, с.40).

Але дзеянні па выхаванні беларускай моладзі ў духу любові да Бацькаўшчыны былі не ў рэчышчы ідэалогіі "русізму", таму саветы пры дапамозе маскоўскіх агентаў і цэлых атрадаў здзяйснялі свае антыбеларускія захады па знішчэнні вёсак (тыпу Дражна) і патрыётаў Радзімы (тыпу А.Нікалаені і яго жонкі, прозвішчы якіх нават не пазначаны ні ў адным са спісаў загінуўшых падчас гэтага ваеннага ліхалецця). І такіх прыкладаў знішчэння патрыётаў Радзімы было не дзясяткі і не сотні, а намнога больш.

Калі ж я даведаўся аб сапраўднай прычыне забойства 3 сакавіка 1944 года ў Вільні Ф.Аляхновіча, выдатнага драматурга, аўтара кнігі "У кіпцюрах ГПУ", у якой раскрываецца праўда пра савецкія канцлагеры, то мне стала зусім зразумела і мэта забойства дырэктара школы. Аб чым красамоўна сведчыць досвед Ю.Туронка (с.689): *"Беларускае грамадства, якое добра ведала аб тэрарыстычных дзеяннях савецкіх партызанаў, у тым ліку аб спаленых імі школах, забітых настаўніках ці сялянах, якія выконвалі абавязковыя пастаўкі сельскагаспадарчых прадуктаў, мела ўсе падставы паверыць паведамленню кантраляванай немцамі прэсы аб забойстве Аляхновіча маскоўскімі агентамі".*

Вось і ў нашым выпадку можна сцвярджаць аб сапраўднай прычыне забойства партызанамі дырэктара школы і яго жонкі. А менавіта: па якой прычыне іх забілі?

Згодна з распараджэннем Кубэ, на тэрыторыі краіны арганізоўвалася навучанне не толькі ў школах СБМ, але і ў пачатковых, у адной з якіх і працаваў дырэктарам А.Нікалаеня. Калі ж партызанскаму штабу пад началам П.Панамарэнкі ў Маскве стала вядома аб арганізацыі навучання моладзі ў беларускіх школах (калі вясной 1942 года ў акрузе працавала толькі адна (медыцынская ў Баранавічах), то праз год працавалі 3012 школ (Лыч Л. "Нацыянальна-культурнае жыццё на Беларусі ў часы вайны", Мінск, 2011, с.82), то і было прынята рашэнне аб іх ліквідацыі. З гэтай мэтай у Беларусь патокамі высаджваліся дэсанты "ліквідатараў". Адным з іх быў атрад, якім камандаваў (па сведчанні партызана В.Стасевіча) брат М.А.Шастапалава (імя яго не запомніў). Ён і выконваў загады па знішчэнні такіх патрыётаў, як А.Нікалаеня. Гэтаму садзейнічаў камісар брыгады Ніл Емяльянаў і яго падручны, кіраўнік падпольнай камсамольскай арганізацыі Іван Зіневіч, які па заданні атрада запісаўся ў склад СБМ і прыносіў звесткі аб створаных школах і гарнізонах на Капыльшчыне ("Памяць", с.233)...

Настойлівы начны стук у дзверы з загадам "Адчыняй!" насцярожыў дырэктара і яго жонку, якія адпачывалі ў прыбудоўцы школы, дзе толькі што праходзілі заняткі з навучэнцамі малодшых класаў. Сам дырэктар выкладаў вучням "Роднае слова". "І з якой гэта нагоды, — падумаў гаспадар, — урываюцца няпрошаныя госці, ды з такім яшчэ грозным загадам. Напэўна, гэта былі свае. Але чаму так пагрозліва? Відаць, не з добрымі весткамі ідуць". Таму і насцярожыўся ён. І як толькі яны ўвайшлі ў пакой, адразу ж пачуў: *"Чаму не закрыў школу?"* Калі ж Саша прамовіў: *"Дык гэта ж зусім не шкодная справа, калі дзеткі будуць вывучаць роднае слова",* то ў адказ грозна прагучала: *"Не твое это дело — их обучать, профессор! Еще будет время, кому и чему учить! Собирайся, пойдем с нами!"* І тут ужо ўступілася за мужа Фядора: *"Нікуды ён не пойдзе, і адстаньце ад яго, браточкі!"* Але ўсё той жа зычны бас прадоўжыў: *"Помолчи, а то и тебе достанется!"* Аднак жанчына ўсё ж не супакоілася і яшчэ больш настойліва запярэчыла: *"Не адпушчу я вам яго, вар'яты!"* І... тут ужо было не да ўгавораў.

Моцны каршэнь аглушыў на нейкую хвіліну жанчыну. Саша зразумеў, што пахне порахам, і сам выйшаў з прыбудовы, каб неяк уратаваць жонку. Калі ж яго ўжо вывелі на задворак і прыставілі да сценкі, усхваляваная жанчына выбегла з памяшкання з лямантам: *"Бандыты! Што вы робіце? Каб на вас, вырадкаў, пярун ляснуў!"* Імгненна раздаўся стрэл прама ў твар жанчыны. Яна як падкошаная асунулася на зямлю. За ім тут жа раздаўся і другі стрэл. Стрэлы і апошнія словы жанчыны пачуў Васіль Стасевіч.

У той жа дзень пасялкоўцы вёскі Быстрыца перапраравілі целы ў родную вёску Фядоры, дзе я і стаў сведкам іх пахавання. Доўгія гады трагедыя гэтых людзей была пакрыта попелам маўчання. Я ж хачу, каб смуга маўчання ўсё ж рассеялася і народ ведаў усю праўду пра вайну.

**Мікола ШАРАВАР.**

**P.S.** *З вялікім жалем і смуткам я ўспрыняў вестку, што 18 снежня 2011 года на 88-м годзе жыцця адышоў у іншы свет Васіль Стасевіч, якому я шчыра ўдзячны за праўдзівыя звесткі аб смерці дырэктара школы Аляксандра Нікалаені і яго жонкі Фядоры.*

ПАЗІЦЫЯ

## *Чыя ж армія на чужыя грошы?*

*Здзівіла і занепакоіла выказванне А.Лукашэнкі наконт таго, што афіцэры ў расійскім войску сёння маюць удвая большую зарплату, чым нашы, беларускія. А паколькі, маўляў, у нас з Расіяй "общая армия", то трэба дамагацца, каб прэзідэнт Расіі выдзеліў нам пэўную суму грошай, каб мы падраўнялі заробкі сваіх афіцэраў да іхніх...*

Во дажылі! Гэта ўжо страшней, чым продаж расійскаму "Газпрому" газавай трубы. Кіраўніцтва Расійскай Федэрацыі, трэба думаць, не адмовіць у просьбе "малодшага брата". Але тады гэта будзе яшчэ адзін удар па незалежнасці Беларусі, бо без уласнай арміі (а чыя ж армія на чужыя грошы?) яна стане гэткай Заходняй ваеннай акругай "саюзнай дзяржавы" — як у 1941-м, перад пачаткам вайны... І дзе гарантыя, што калі ў "старэйшага брата" ўзнікнуць на ўсходніх ці паўднёвых межах чарговыя ўзброеныя канфлікты, з Крамля не паступіць у Мінск каманда выдзеліць у рамках калектыўнай абароны паветрана-дэсантны ці іншы полк, як гэта было ў 1979 годзе, пры пачатку вайны СССР у Афганістане? І зноў у Беларусь у цынкавых трунах бацькам будуць дастаўляць загінуўшых далёка ад дому беларускіх хлапцоў...

А можа, варта было б скараціць колькасць спецназаўцаў і міліцыянтаў у краіне, якіх сёння на 1000 чалавек насельніцтва прыпадае ўдвая ці ўтрая больш, чым у суседняй Польшчы, хоць там у чатыры разы больш жыхароў? На сэканомленыя сродкі можна было б павысіць заробак і беларускім афіцэрам. Дадаць бы сюды скарачэнне колькасці ўзводзімых, а яшчэ і запланаваных на бліжэйшы час лядовых палацаў у раённых цэнтрах — і не давялося б ісці на чарговы паклон Крамлю.

**Алесь КАРНІЦКІ.**

*г.Слуцк.*



Барон Герарці на кані Вясёлцы Фініяна пераадольвае водную перашкоду на вядомым Чалтэнхемскім фестывалі ў Англіі.

КОРОТКО

## Португалия — на верном пути

Таков диагноз Еврокомиссии, выведенный на основе февральского отчета "тройки" кредиторов — ЕС, ЕЦБ и МВФ. Аналитики надеются, что к 2014 году Португалия сможет получать все необходимые средства на открытых рынках и не брать больше в долг. К тому времени как раз завершится программа финансовой помощи, стартовавшая год назад. Это пакет на 78 миллиардов евро. Чуть меньше — 50 миллиардов — уже получено. Недавно разморожен четвертый транш на 15 миллиардов.

В обмен на эти средства правоцентристское правительство Португалии принимает жесткие реформы, такие как недавние изменения на рынке труда: сокращение выходных и праздничных дней, сокращение оплачиваемого отпуска, снижение компенсаций при увольнении. Только в 2011 году эти сокращения компенсировали 7,5% ВВП страны.

В этом году правительство рассчитывает сократить дефицит бюджета до 4,2% ВВП; однако госдолг к 2013 году, по прогнозам Еврокомиссии, вырастет — до 115% ВВП.

Безработица и рост социальной напряженности — верные спутники "мер спасения" — в случае с Португалией, по мнению аналитиков, обусловлены запоздалыми и нерешительными действиями правительства.

## В Германии зафиксирован рекордный за 15 лет приток иностранцев

За 2011 год число жителей Германии, занесенных в центральный реестр иностранцев, увеличилось на 177.300 человек (2,6 процента). Это самый высокий показатель за 15 лет, говорится в сообщении Федерального статистического ведомства. В конце прошлого года, по данным реестра иностранцев, в ФРГ проживали 6,93 миллиона человек, имеющих только гражданство других стран.

## "Пражское сафари": экскурсии по местам, связанным с коррупцией

В Чехии возникла оригинальная бизнес-идея: организовать в Праге туристические маршруты по местам, связанным с громкими коррупционными скандалами.

На холме с видом на долину реки Влтавы в одном из элитных кварталов Праги возвышается недавно построенная вилла. Здание огромное — намного больше, чем окружающие его сооружения. В нем живет богатый и влиятельный бизнесмен Роман Яноушек.

На строительных планах, представленных в городскую администрацию, вилла Яноушека была меньше, чем ее в итоге построили. Чиновники должны были бы распорядиться снести или изменить постройку. Или хотя бы взыскать штраф с бизнесмена. Должны были бы, но они этого не сделали. Роман Яноушек — очень влиятельный человек.

Его вилла — одна из остановок экскурсионного тура "Пражское сафари", которое проводит туристическое агентство CorruptTour. Еще две остановки маршрута: квартал с коттеджами руководителей государственной энергетической компании CEZ, а также заброшенная квартира, принадлежащая адвокату Иво Риттигу, по неизвестным причинам получающему прибыль с каждого проданного в Праге билета на трамвай или метро. Он очень богат. И, конечно же, Риттиг мало времени проводит в этой квартире.

## Туркменский народ обрекли на неделю хорошего настроения

Их также обязали идти по бетонной "Тропе здоровья" и делать по утрам физзарядку, пишет немецкая газета Financial Times Deutschland.

"Тропа здоровья" в горах Копетдага в Туркмении — это забетонированная дорожка протяженностью 8 километров, ведущая к вершине горы, на которой нет ни одного дерева и с которой открывается панорама на такой же пустынный ландшафт. Это не то место, с которым в Европе ассоциировалось бы счастье.

Но в Туркмении считают иначе. Массовый марш по бетонной тропе — запланированная кульминация "Недели здоровья и счастья". Президент страны Гурбангулы Бердымухамедов, бывший врач-стоматолог, распорядился о проведении "недели здоровья", чтобы отпраздновать наступление "Эры власти и счастья", которую он недавно провозгласил.

Что имел в виду автократ Бердымухамедов, он недвусмысленно дал понять: сотрудникам всех туркменских министерств, организаций и предприятий незамедлительно предписана каждодневная совместная физзарядка. В университетах проводятся конференции на тему "Страна здоровья и счастья — мое Отечество Туркменистан". Эта тема стала обязательной и для всех театров и кинозалов страны.

РОЗДУМ НАД КНІГАЙ

*Анатоль ВЯРЦІНСКІ*

# Блукае прывід Освальда...

Кніга своеасаблівая, незвычайная, і незвычайным чынам пісалася рэцэнзія на яе. Справа ў тым, што месцам дзеяння ў ёй з'яўляецца, можна сказаць, сталічная плошча Перамогі (яе, як вядома, называюць яшчэ Круглай, як яна і называлася афіцыйна да 1954 года). Усяго ў некалькіх кроках ад яе, на Камуністычнай, 4, жыве галоўны герой. Штодзень ходзіць паўз плошчу, міма гранітнага абеліска з яго гарэльефамі і выявай ордэна (ці звяртае ўвагу, ці задумваецца часам пра ідэю манумента?). Ходзіць паўз плошчу на працу, на тралейбусны прыпынак, у госці да сваіх новых, савецкіх, сяброў, на спатканні з дзяўчатамі-мінчанкамі (то з адной, то з другой, "мы адразу ўпадабалі адно аднаго...") і яшчэ — у кафэ самаабслугоўвання. Пра гэтае кафэ піша ў сваім дзённіку: *"Я прызвычаіўся да маленькага кафэ, куды хаджу вячэраць. Ежа звычайна нясмачная, і ў любым кафэ ў горадзе аднолькавае меню. Ежа танная, і мне насамрэч усё роўна пасля трох гадоў службы ў амерыканскай марской пяхоце..."*



На гэтым месцы чытанне кнігі мною міжволі прыпынялася. Позірк скіроўваўся ў думках да гэтага самага, на той час маленькага, з таннай ежай, кафэ, якое мы цяпер ведаем як "Бярозку" і куды некалі, на пачатку 60-х, я хадзіў абедаць з калегамі па працы ў рэдакцыі "ЛіМ". Магчыма, сустракалі там і героя кнігі, учарашняга амерыканскага марпеха.

Узнікла цяпер патрэба схадзіць на плошчу — балазе жыву побач, адмыслова абысці, агледзець яе як адметны, знакавы архітэктурны ансамбль. Што і зрабіў. І згадаў тут са здзіўленнем, нібы рабіў адкрыццё, што быў выпадковым, па дарозе на працу, сведкам, як летам 1974 года да падножжа гэтага ж помніка ўскладаў вянок 37-ы прэзідэнт ЗША Рычард Ніксан. І ўспомнілася само сабой, што ў студзені 1994-га на гэтай самай плошчы сустракаўся з мінчанамі Біл Клінтан (фотакарэспандэнты зафіксуюць яго з бел-чырвона-белым сцяжком у руках). Зрабілася, прызнацца, нават крыху не па сабе. Ад усведамлення, што недзе менавіта тут, на гэтай жа самай плошчы і вакол яе, блукае прывід яшчэ аднаго амерыканца — толькі ўжо забойцы свайго, амерыканскага, прэзідэнта, таго, які абвяшчаў *"новыя рубяжы"* і сцвярджаў, што *"сіла бессэнсоўная, калі яна не абапіраецца на справядлівасць"*... Нейкае наканаванне, нейкі пракляты залом над гэтай плошчай ці што?

Вярнуўшыся пасля "экскурсіі" дадому, разгарнуў кнігу і знайшоў набраную петытам зноску, якой спачатку не надаў асаблівага значэння. Чытаў: *"Астролагі, канечне, заўважаць, што апошнія паўстагоддзя Менск спецыфічна звязаны з Белым домам: спачатку забойства Кенэдзі, потым Джонсан, які, дзякуючы гэтаму, стаў прэзідэнтам, адмаўляецца ісці на другі тэрмін, затым Ніксан пасля візіту ў Менск ідзе ў адстаўку, Клінтан адведвае Менск і атрымлівае імпічмент. У менскай паездцы Ніксана суправаджаў памочнік Пэт Бюкекан, які потым сам тройчы спрабаваў стаць прэзідэнтам ЗША — і ўвесь час марна. Страшнае слова просіцца з камп'ютара на старонку — карма".*

Падумалася, што гэтым магчымым меркаваннем астролагаў можна і пачаць рэцэнзію і трымацца ўжо непасрэдна тэксту кнігі. Але... Падключыліся раптам СМІ з іх павышанай увагай да... практыкуючага астролага Ігара Кірушына, да яго адказаў на пытанні, як складаецца гараскоп краіны, якая ў Беларусі карма і г.д. У інтэрв'ю, якое друкуе "Народная Воля", астролаг выказвае ўпэўненасць, што Беларусь з'яўляецца краінай, дзе *"творыцца светапарадак".* У якасці доказаў ён прыводзіць наступныя падзеі: РСДРП заснавалі ў Мінску; нямецкі план "бліцкрыг" сарваўся дзякуючы супраціўленню беларусаў; нават забойца Джона Кенэдзі жыў у беларускай сталіцы (амаль апісанне плошчы з яе манументам Перамогі, домікам з'езда РСДРП і прывідам забойцы)...

Адцягваецца крыху ўвага ад кнігі. Ды гэта яшчэ не ўсё. Нумар "Народнай Волі" за 3 лютага гг. Чытаю "Наброски первого" Станіслава Шушкевіча (назва, на мой погляд, яўна няўдалая) і даходжу раптам да раздзела, які так і называецца: "Мой с Сашей ученик — Ли Харви Освальд". У кнізе, якую я ўзяўся рэцэнзаваць, імя С.Шушкевіча не раз згадваецца ў розных кантэкстах, а тут вось ён сам бярэ слова. Распавёўшы пра свае ўрокі расійскай мовы для дзіўнага імігранта, новаспечанага рабочага мінскага радыёзавода, ён піша: *"Так вот все это не позволяет мне поверить заключению комиссии во главе с председателем Верховного суда США Эрлом Уорреном... Я не одинок, более 70% американцев не верят в официальную версию убийства. Побывав в 2008 году в Далласе на месте преступления, я, как и большинство американцев, отвергаю официальную версию".* Вось такія адназначныя высновы робіць шаноўны аўтар мемуараў-"набросков".

Ды, скажу адразу, калі б ён пазнаёміўся з кнігай Аляксандра Лукашука "След матылька. Освальд у Менску", — а размова ідзе, як чытач, пэўна, даўно ўжо здагадаўся, менавіта пра гэтую кнігу, — то быў бы, мабыць, менш катэгарычны ў сваім сцвярджэнні.

Задаючыся пытаннем, "які ўплыў меў менскі перыяд жыцця Освальда на яго ўчынак у Даласе", А.Лукашук зазначае, што ўсе мінскія знаёмыя і сябры Освальда, у тым ліку супрацоўнікі КДБ, якія яго "пасвілі" ("Справа агентурнай распрацоўкі №34451"), таксама лічылі, кожны па-свойму, чаму Освальд не мог быць забойцам Кенэдзі. *"Так знаёмыя кажуць пра амаль усіх забойцаў,* — піша далей аўтар, — *быў ціхі хлопчык у школе, прыстойныя бацькі, дапамагаў суседзям, меў добрыя характарыстыкі, мы разам гулялі ў парку. Гэта псіхалагічна просты і пашыраны феномен — абарончая рэакцыя ад нечаканага выкіду абсурду".*

А.Лукашук дае станоўчую ацэнку дзейнасці гэтай самай камісіі Уорэна ("Карпатліва сабрала неверагодную колькасць інфармацыі пра жыццё Освальда...") і нагадвае пра той вядомы факт, што праз 30 гадоў створаная паводле пастановы Кангрэса ЗША спецыяльная Рада рассакрэціла дадатковыя дзясяткі тысяч папер і ў 1998 годзе зрабіла ўсе чатыры мільёны дакументаў даступнымі любому даследніку. *"Расследаванне забойства Кенэдзі — самая падрабязная і самая вялікая ў гісторыі чалавецтва следчая справа,* — заключае аўтар. — *Яе высновы вядомыя — прэзідэнта забіў Освальд, і ён дзейнічаў адзін".*

І ён з'яўляецца галоўным героем кнігі (героем, зразумела, у літаратурным сэнсе слова). Кнігі шматпланавай, шматслаёвай, шматгалосай, можна дадаваць і іншыя "шмат". Гістарычны і грамадска-палітычны кантэкст робіцца ў ёй усё больш шырокім з кожным наступным раздзелам. Імянны паказальнік налічвае каля 200 асобаў. І ўсе яны, ад Розы Агафонавай, Алеся Адамовіча і Тамаша Аквінскага да Эйзенхаўэра, Энгельса і Інесы Яхель, — так альбо інакш працуюць на цэнтральную тэму, звязаныя у тым альбо іншым сэнсе з асобай галоўнага героя, Лі Харві Освальда...

...На перон мінскага вакзала ён ступіў 7 студзеня 1960 года ў салдацкай шапцы-вушанцы і з цвёрдым перакананнем, што *"ўнутрана не мае ніякага дачынення да ЗША"* і што *"хоча і будзе мець нармальнае, шчаслівае і мірнае жыццё тут, у Савецкім Саюзе, да канца свайго жыцця"* (з ліста брату Роберту Освальду). Спачатку жыве ў гатэлі "Мінск", а ў сакавіку атрымлівае аднапакаёвую кватэру на вуліцы Калініна, 4 (так тады называлася сённяшняя Камуністычная). Кватэру з балконамі і вокнамі на парк і на Свіслач. Побач праспект, плошча Перамогі, праз вуліцу — радуйся, малады марксіст! — Дом-музей I з'езда РСДРП. *"Гэта мара расейцаў",* — піша з гонарам навасёл у сваім дзённіку (ён вядзе дзённік). Беларусаў лічыць расейцамі (рускімі). І ў гэтым, і ў іншых выпадках. Прызнаецца: *"Я люблю ўсё расейскае. Я хачу выглядаць як расеец".* І рукапіс сваіх нататак назаве "Калектыў — жыццё расейскага рабочага".

*(Заканчэнне на 6-й стар.)*

СУД ИДЕТ!

## *Процесс века в Турции*

*В Анкаре начинается суд над организаторами военного переворота 1980 года. В живых остались лишь двое — 86-летний генерал Тахсин Сахинкая и 94-летний экс-президент Кенан Эврен, который девять лет был у власти.*

Выйдя на пенсию, он увлекся живописью, а теперь ему грозит пожизненное заключение — два года назад на референдуме страна решила лишить лидеров хунты иммунитета от судебного преследования.

Когда в 1980 году военные захватили власть, в Турции начались массовые репрессии: был составлен так называемый "черный список", в который попали более полутора миллионов человек: пятьсот тысяч были брошены в тюрьмы, пятьдесят человек были казнены, в застенках жестоко пытали и на деле погибли тысячи, судьба многих до сих пор неизвестна — их фамилии числятся в списках пропавших без вести.

Суд над генералом и экспрезидентом Эвреном для Турции символизирует конец эры правления военных, которые в прошлом веке трижды устраивали перевороты. Родственники жертв хотят верить, что колесо истории больше никогда не откатится под танки.

ЯНЫ — ПРА НАС

# Што губляе Мінск, адмаўляючыся ад удзелу ў Парламенцкай асамблеі «Усходняга партнёрства»?

У Баку прайшло пасяджэнне Еўранеста — Парламенцкай асамблеі "Усходняга партнёрства". Еўранест — гэта парламенцкая асамблея, створаная з мэтай назіраць за рэалізацыяй праграмы "Усходняга партнёрства" і даваць парады ўрадам — удзельнікам праекта.

37 дэпутатаў Еўрапарламента сустрэліся з больш як 50 парламентарыямі з Грузіі, Азербайджана, Арменіі, Малдовы, Украіны. У першы дзень Еўранеста палітыкі абмяркоўвалі беларускае пытанне.

На сустрэчы з палітыкамі Еўрасаюза і краін "Усходняга партнёрства" прысутнічалі беларускія апазіцыянеры: Андрэй Дзмітрыеў, Аляксандр Мілінкевіч, Аляксей Янукевіч. Прадстаўнікі афіцыйных беларускіх улад на пасяджэнне Еўранеста не прыехалі.

Дэлегаты Еўранеста абмяркоўвалі стратэгію ў дачыненні да Беларусі. "*Мы абмяркоўвалі палітыку ўрада Лукашэнкі, стан апазіцыі, сітуацыю палітвязняў, ацэньвалі эфектыўнасць санкцый: ці трэба іх узмацняць, ці змяншаць,* — кажа дэпутат Еўрапарламента Яцэк Сарыюш-Вольскі. — *Акрамя гэтага, мы абмяркоўвалі адкрыццё праграм абмену моладдзю і студэнтамі, спрашчэнне візавага рэжыму. Мы прыйшлі да высновы, што ні стратэгія санкцый у адносінах да Лукашэнкі, ні лібералізацыя не прыносяць вынікаў. Патрэбны перамены ўнутры самога беларускага грамадства".*

Прадстаўнікі беларускіх улад не прымаюць удзелу ў Еўранесце, бо Еўрапейскі парламент лічыць выбары ў Палату прадстаўнікоў несумленнымі, а беларускія ўлады не згаджаюцца ўдзельнічаць у пасяджэннях разам з апазіцыяй, — тлумачыць палітолаг Дзяніс Мельянцоў.

Што губляе Беларусь ад свайго няўдзелу ў Парламенцкай асамблеі "Усходняга партнёрства"? Магчымасць кантактаў з еўрапейскімі палітыкамі і давер з боку іншых дзяржаў, — кажа Дзяніс Мельянцоў.

Еўранест — гэта структура, у рамках якой беларускія парламентарыі маглі б абменьвацца досведам і проста кантактаваць са сваімі заходнімі калегамі. Насамрэч пляцовак, у якіх на такім узроўні ўдзельнічаюць беларускія дэпутаты, — няшмат. Па-другое, пацярпеў прэстыж краіны. Калі дзяржава ўдзельнічае ў такіх асамблеях, гэта азначае, што яна з'яўляецца партнёрам Еўрасаюза. Такім чынам, яна ўспрымаецца іншымі краінамі, замежнымі інвестарамі і эканамічнымі партнёрамі. Іншымі словамі, тое, што Беларусь не ўдзельнічае ў Еўранесце, паказвае, што з краінай нешта не так, і трэба вельмі асцярожна ставіцца да супрацоўніцтва з ёю.

Што трэба зрабіць Мінску, каб быць запрошаным у Еўранест? Выканаць усяго дзве ўмовы: выпусціць палітвязняў і правесці сумленныя парламенцкія выбары — патлумачыў еўрадэпутат Яцэк Сарыюш-Вольскі.

На пасяджэнні Еўранеста палітыкі Еўрасаюза і краін "Усходняга партнёрства" абмяркавалі чатыры справаздачы: аб энергетычнай інфраструктуры, стане дэмакратыі і незалежнасці СМІ ў краінах Усходняга партнёрства, гандлёвых пагадненнях, а таксама аб супрацоўніцтве паміж грамадзянскай супольнасцю і ўладамі. Акрамя гэтага, адбыўся семінар, прысвечаны сумесным энергетычным праектам Еўрасаюза і краін-партнёраў, паведамляецца на сайце "Польскага радыё".

СЛЫШАЛИ?

## *Президент Афганистана Хамид Карзай занимает первое место в мире по количеству советников*

Об этом говорится в исследовании частного афганского телеканала.

Его сотрудники подсчитали, что в окружении Карзая работают в общей сложности 110 чиновников в рангах министров-советников и советников-экспертов. Зарплата и оперативные расходы этой "армии" экспертного сообщества составляют в год около 4,2 миллиона долларов.

По данным афганского Первого канала, 60 министров-советников получают зарплату в пять тысяч долларов в месяц. Еще пятеро работают в отделе юстиции управления делами президента, другие пятеро — консультируют, кого сместить или заменить на высоких государственных постах, 35 человек работают экспертами в управделами президента и еще пятеро — советниками в Совете безопасности страны, который возглавляет сам Карзай.

В исследовании говорится, что большинство из этих советников и экспертов не имеют возможности встретиться с президентом даже один раз в год, в то время как постоянно работают с главой государства всего 10 человек из указанных лиц.

По данным ТВ, в Администрации президента числятся еще 30 человек — экспертов по вопросам племен.

Среди 110 министров-советников и советников-экспертов всего одна женщина, она отвечает за сферу здравоохранения.

Телеканал приводит сравнительные данные по числу советников у руководителей государств региона. Так, у президента Таджикистана Эмомали Рахмона, по данным Первого канала, всего шесть советников, у президента Ирана Махмуда Ахмадинежада — 25, у президента Пакистана Асефа Али Зардари — пять советников.

## *Рейтинг самых счастливых стран*

*Эксперты Института Земли, являющегося подразделением Колумбийского университета, США, составили рейтинг самых счастливых стран. Отчет под названием "Доклад о мировом счастье" был впервые обнародован на конференции Организации Объединенных Наций, посвященной счастью, сообщают "Известия".*

Оценив политические свободы, социальные гарантии, отсутствие коррупции — факторы, по мнению ученых, гораздо более важные, чем доходы населения, а также здоровье граждан и гарантии стабильных и счастливых браков в более чем 150 странах, известные экономисты Джон Хеллиуэлл, Ричард Лэйард и Джеффри Сакс, выступившие авторами доклада, пришли к выводу, что самые счастливые страны находятся в Северной Европе. Так, первое место заняла Дания. За ней следуют Норвегия, Финляндия, Нидерланды и Швейцария. Их "коэффициент счастья" составляет 7,6 из 10 баллов.

США расположились на 11-м месте, Великобритания — на 18-м, уточняет The Daily Telegraph.

Россия же в данном исследовании заняла 76-е место, получив чуть выше пяти баллов. Ее обогнали Казахстан, занявший 59-ю строчку рейтинга, Литва — 60-е место, Беларусь — 62-е место и Эстония — 72-е место. В свою очередь Украина оказалась на 91-м месте, а Латвия — на 116-м.

Самыми несчастливыми странами американские эксперты признали страны "субсахарского" региона — Того, Бенин, Центрально-Африканскую Республику, Сьерра-Леоне. Их средняя оценка жизни составила 3,4 балла.

Кроме того, ученые утверждают, что за последние 30 лет мир стал счастливее: в среднем уровень счастья повысился на 0,14 пункта.

## *Посадила самолет после смерти мужа-пилота*

80-летней жительнице Висконсина удалось посадить небольшой двухмоторный самолет после того, как ее 81-летний супруг, управлявший им, умер за штурвалом. После того как муж потерял сознание, женщина, не имевшая опыта пилотирования, попросила по радио о помощи. Из аэропорта, находящегося в округе Дор на северо-востоке штата, на помощь ей вылетел самолет.

Пилот второго самолета инструктировал женщину по радио, наблюдая за тем, что происходит с ее воздушным судном. Как сообщается на сайте местной радиостанции WTAQ, один из двигателей самолета 80-летней американки прекратил работать из-за нехватки топлива. После этого ей рекомендовали немедленно садиться.

Женщина получила небольшие травмы. Смерть ее мужа была констатирована позже в больнице. Имена супругов не называются.

ЛЮБОПЫТНО

# Выставка мозгов в Лондоне

*В Лондонском выставочном центре Wellcome Collection открылась выставка с интригующим названием "Мозг: сознание как материальный объект".*

Это одна из тех выставок, где охотнее читаешь аннотации, чем смотришь на экспонаты, ибо сколь бы ни были интересны человеческие мысли, место, где они обычно помещаются, выглядит не так чтобы очень...

К счастью, новая экспозиция включает в себя не только и не столько серое вещество, но и обширный художественно-изобразительный ряд, и рассказывает о том, как человечество изучало мозговую и психическую деятельность на протяжении тысячелетий.

На выставке есть несколько образцов мозга, законсервированных разными способами: в спирту, в формальдегиде, в смеси глицерина с водой, а также гальванизированные, замороженные и даже мумифицированные непосредственно древними египтянами.

На протяжении многих веков ученые пытались найти доказательства того, что интеллектуальные и прочие способности человека зависят от размера и формы головы.

Вот газетная вырезка 1889 года, сообщающая о создании в Вистаровском институте Филадельфии антропометрического сообщества. Это был своего рода элитарный "мозговой клуб" ученых, подписавших пакт о том, что после смерти они оставят свой мозг для исследований.

Целью этих изысканий было доказать, что мозги интеллектуалов отличаются от мозгов простых обывателей. Американский анатом Берт Грин Уайлдер начал в 1889 году собирать коллекцию человеческих мозгов в Корнельском университете. На выставке — фото этой коллекции, в своей время насчитывавшей 600 образцов, с отдельным разделом "Мозги неизвестных людей, сумасшедших и преступников".

Здесь можно полюбоваться на левое полушарие мозга английского математика Чарльза Бэббиджа, изобретателя первой вычислительной машины, и на мозг интеллектуала XIX века (и по совместительству — преступника) Эдварда Рулоффа, убившего трех человек, включая собственных жену и ребенка. Его мозг весом в 1770 граммов является одним из самых крупных в мире.

## *Подари королю корову!*

Король Свазиленда Мсвати III приказал своим подданным дарить ему коров на день рождения, сообщает "Интерфакс" со ссылкой на AFP.

Свой 44-й день рождения Мсвати III будет праздновать 19 апреля в округе Шиселвени на юге страны. "Представители властей Шиселвени в качестве хозяев мероприятия должны будут собрать скот, который будет принесен в жертву. Власти округа в полной мере осознают свою ключевую роль. Ведь именно они будут принимать короля в этот памятный для него день", — заявил министр внутренних дел Свазиленда принц Гкокома.

Мсвати III входит в список 15 богатейших монархов в мире по версии журнала Forbes. Его состояние оценивается в более чем 100 миллионов долларов. У него 13 жен, каждая из которых живет в отдельном дворце.

Между тем Свазиленд остается одной из беднейших стран в мире, 60% его населения живет на менее чем 2 доллара в день.

ПРИЯТНОГО АППЕТИТА!

*Валентина ШТЕФАНО, кондитер:*

# «Настоящие сладости лишних килограммов не добавят»

*Быть счастливым можно, только занимаясь любимым делом. Живое подтверждение этого закона — французский кондитер **Валентина Штефано.** С нею даже разговор о победах, испытаниях и секретах — не выходя из кухни...*

## Торты бывают только сегодняшними

Валентина — гость на производственной кухне минской фирмы Plaisir. Известный французский кондитер прилетела в Беларусь, чтобы дать серию мастер-классов для местных специалистов. Госпожа Штефано мастер по изготовлению макарон — маленьких лакомств из миндальной муки, сахара и яичных белков. Научиться делать это изысканное угощение — вызов для белорусских кондитеров, ведь макароны считаются верхом кондитерского искусства. Без опытного "проводника" не обойтись.



Хрупкая Валентина на кухне как генерал — действует решительно, четко.

*"Хорошее масло достать здесь тяжело, но мы его нашли*, — доделывая традиционный французский торт "Фрезье" — вот-вот будут нанесены последние шоколадные завитушки, — рассказывает Валентина. — *Хорошее масло — это минимум 84% жирности. Для меня другого просто не существует"*.

Валентина использует в своих рецептах только самые высококачественные продукты. Все в ее десертах должно быть натуральным. Хотя начинать приходилось с совершенно фантастических вещей. Украшения для своих первых тортов Валентина красила... зеленкой и свеклой!

"*Я всегда хотела быть кондитером,* — призналась мастер, которая родилась и выросла в Украине. — *Но мама сказала, что кондитер — это несерьезно и надо идти в торговый институт, стать директором магазина и получать большие деньги. Как хорошая дочка, я отучилась в торгово-экономическом техникуме, в институте торгово-экономическом и... никогда не работала в торговле".*

Рассказывая о себе, Валентина почти успевает доделать марципан для украшения торта. В качестве эталона — рецепт из ее книги. Попутно дает совет: скалка должна быть без ручек. Просто круглый монолитный брусок — так раскатывать тесто будет легче.

*"Всегда мечтала быть кондитером,* — продолжила Валентина. — *И когда в 30 лет приехала во Францию, поняла, что это страна, в которой я останусь. Там я наконец-то смогла реализовать то, чего хотела всегда..."*

Обывателю невозможно представить, как мало "сладкого" в жизни кондитера. Премудростей не меньше, чем в астрономии: клубнику не замораживают, а кондитерские изделия премиум-класса нужно делать только из натуральных ингредиентов. А еще торты бывают только сегодняшними. В маленькой кондитерской Валентины в Версале непроданные угощения вечером выбрасывают...

## Испытание булочками

Рабочий день Валентины начинается в три часа утра. Собственная кондитерская — дело хлопотное. Во Франции сладости едят намного реже, чем в Беларуси, — у нас принято покупать что-то к чаю. Фирма Plaisir, которая желает освоить выпуск эксклюзивных сладостей, в более выгодном положении в сравнении с самой Валентиной. Чтобы заработать, госпожа Штефано и ее муж собираются открыть в дополнение к кондитерской булочную — вот это стопроцентно стабильный доход.

"*Если есть желание научиться чему-то высокому, то обязательно нужно начинать с базового,* — признается Валентина. — *Основа основ — заварное тесто. Если у кондитера невкусные заварные булочки, все будет плохим"*.

При этом госпожа Штефано заметила, что в Беларуси быть кондитером... очень дорого. Цены на ягоды она назвала *"космическими"* и призналась, что *"никогда в жизни не отдала бы такие деньги за чернику и клубнику"*. Вся надежда на то, что летом сладкий товар подешевеет...

"*Не существует профессии "кулинар-кондитер",* — поясняет Валентина, завершая декорирование торта. — *Ты не можешь быть тем и другим одновременно. Мне повезло: когда я закончила школу во Франции, то получила специальность кондитера, изучила работу с шоколадом, мороженым и всем, что касается мармелада, драже и карамели. Сегодня все эти специальности преподаются отдельно. А вас хотят научить всему!"*

Распаляясь, Валентина переходит на французский и становится похожей на кинозвезду, которая только "играет" в кондитера. Но все взаправду — и дипломы престижных конкурсов, и ежедневные встречи рассвета за работой...



## А шоколад-то у вас ненастоящий!

В Минске Валентина второй раз. Впервые прилетела зимой и мало что запомнила.

*"Первый раз, когда я была в Беларуси, я ничего не поняла,* — не скрывала мастер, демонстрируя сладости, которые приготовила специально для мастер-класса. — *Теперь я даже знаю, где КГБ! Просто я живу напротив этого здания"*.

Собираясь в Беларусь второй раз, госпожа Штефано решила открыть страну заново. Как истинная поклонница шоколада, начала с угощения в самолете.

*"Это не шоколад!* — категорично заявляет кондитер. — *Во рту ничего нет, кроме мусса и мыла. Вы понимаете, что вас обманули и наказали — вам дали жира на попу и никакого удовольствия!"*

Именно из-за такого "шоколада" у людей и развивается аллергия, уверена мастер. Валентина вспоминает, как к ней в гости приехала дама с аллергией на шоколад. Госпожа Штефано убедила гостью отведать всего одну шоколадную конфету с ромом по фирменному рецепту кондитера. Уезжая, дама скупила весь ассортимент кондитерской Валентины. Аллергии и в помине не было! Никакого медицинского чуда здесь нет — шоколад от Валентины был совершенно натуральным, только из сахара и масла какао-бобов. Проблемы со здоровьем вызывают добавки, которые презирает любой серьезный мастер кондитерского искусства.

## Дамам тут не место?

Главная задача Валентины Штефано в Минске — научить кондитеров Plaisir делать настоящие макароны. В прошлом году Валентина Штефано была признана лучшим автором макарон в Париже и Парижском округе. Всех покорили сладости со вкусом коллы. Кстати, на конкурсе Валентина была единственной женщиной. "Сладкая" профессия вообще не любит дам — слишком много времени нужно уделять делу.

*"Там женщины не работают кондитерами,* — признается Валентина. И чуть позже добавляет: — *Если бы я начала работать кондитером раньше тридцати, семья бы сильно пострадала. С мужем мы вместе держим кондитерскую, у меня двое детей. Старшая дочь уже взрослая, получает высшее образование в парикмахерском искусстве"*.

Валентина уехала из родной Украины в 1991 году в болгарскую Софию. С тех пор, шутит она, чем только не занималась — то один ребенок родился, то второй. Сегодня дети уже взрослые и пусть в кондитеры не пошли, но толк в сладостях знают.

*"Мой сын никогда не съест конфету целиком,* — рассказывает кондитер. — *Он никогда ее не проглотит, пока точно не узнает, что там внутри. Не просто раскусит — посмотрит, пощупает, прежде чем отправить в рот"*.

Валентина вспоминает, что вместе с нею в школе кондитеров учились бывшие банкиры, финансисты. Все эти люди бросили свои престижные должности. Они поняли, что нет ничего лучшего в жизни, чем заниматься тем, что приносит удовольствие.

**Мария МАЛЕВИЧ.**

ШОУ-БІЗНЕС

# «Драздам» дапамагло футра, а Яўгену Літвінковічу — Украіна?

*Чаму генеральны дырэктар "Новай хвалі" папрасіў падарыць яму слоўнік, колькі каштуе футра з "Драздоў" і што нясуць на конкурс з карпаратыву, разбіралася "Народная Воля".*

## Краіна ведае герояў

Днямі былі названы імёны айчынных музыкантаў, якія ў фінале адбору будуць прэтэндаваць на права выступаць ад Беларусі на Міжнародным конкурсе маладых выканаўцаў "Новая хваля" і "Дзіцячая Новая хваля". "Улоў" сёлетняга нацыянальнага адбору даволі багаты — сярод дарослых і дзяцей адабралі па 8 чалавек.

Вялікіх сенсацый не здарылася. Краіна ведае сваіх герояў: гурт "Дразды" рэгулярна дае канцэрты і выступае па тэлебачанні, а **Яўген Літвінковіч** паспеў скарыць Украіну. Малады чалавек ужо не аднойчы спрабаваў удзельнічаць у айчынных музычных конкурсах, але яму не надта шанцавала. У мінулым годзе Яўген удзельнічаў у адборы на "Новую хвалю" і нават дайшоў да фіналу. На фінішнай прамой яго абышоў спявак **Юзары**. А вось журы і гледачоў украінскага шоу "Украіна мае талент" Яўген уразіў вельмі моцна — яму нават стоячы апладзіравалі.






Дарэчы, спрабавалі патрапіць у фінал і ветэраны "свяшчэннай каровы" беларускага шоу-бізнесу — "Еўрабачання". У **Егіязара Фараш'яна** з гурта "3+2" гэта атрымалася, а вось у **Анастасіі Віннікавай** — не. У фінал патрапілі **Ганна Шалюціна**, гурт **Япkey** (**Ян Жанчак**), **Вера Карэтнікава**, **Егіязар Фараш'ян**, гурт **"Дразды"**, **Little Jack (Яўген Літвінковіч)**, **Аляксей Шкраба** і **Аляксандра Барташэвіч**.

"Дзіцячая Новая хваля" пройдзе ў жніўні ў Артэку. Пакуль журы адабрала 8 юных беларускіх зорачак, што паспрачаюцца за права выйсці на конкурсную сцэну. Месца ў "дзіцячым" фінале знайшлося для **Іллі Федарцова**, **Ягора Жашко**, **Ірыны Круглік**, **Аляксандры Лакціёнавай**, **Лізаветы Пяганавай**, **Юліі Мажылоўскай**, **Ангеліны Калабухавай** і **Ганны Зайцавай**.

## Футры ў разлік не прымаюцца

Нягледзячы на тое, што сябры журы з упэўненасцю заяўлялі, маўляў, конкурснае шоу ў разлік не ідзе, выканаўцы ўсё роўна падрыхтаваліся, як да дзіцячага ранішніка — адказна, шчыра і са спадзевам стаць "лепшай сняжынкай".

Безумоўна, пераплюнулі ўсіх удзельнікі гурта "Дразды". **Віталь Карпанаў** і яго таварышы выйшлі на сцэну жывой рэкламай салона скуры і футра. Кожны з удзельнікаў быў апрануты ў кароткую футравую куртку. Па асабістым прызнанні хлопцаў, каштавалі такія "пінжачкі" па тры тысячы долараў! Але музыкі іх не набывалі — падарылі добрыя людзі.

А вось "шапка-закідальніцтва" не здарылася — ушанкі "Дразды" паздымалі да шоу, бо ў музычным тэатры, дзе праходзіў адбор, было даволі цёпла.

*"Для нас вельмі важна бачыць, што робяць канкурсанты, а не як яны апрануты"*, — заявіў генеральны дырэктар "Новай хвалі" Аляксандр Румянцаў.

Гендырэктар нават пажартаваў: ні ён, ні сябры журы футра не носяць, таму *"футры ў залік не ідуць"*.

Магчыма, шыкоўныя палітончыкі ў залік і не ішлі, але "Дразды" атрымалі квіток у Маскву...

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

## *Беларускі цырульнік заваявала золата Еўропы*

Прадстаўніца зборнай каманды Беларусі па цырульніцкім майстэрстве Дар'я Дубровіна заваявала ў Вене залаты медаль чэмпіянату Еўропы—2012 у самай стыльнай намінацыі "Мужчынскі модны вобраз Ful fashion look".

Аб гэтым паведаміў дырэктар Беларускай асацыяцыі цырульнікаў і касметолагаў, генеральны прадстаўнік Беларусі ў Сусветнай арганізацыі цырульнікаў **Канстанцін Вайцяхоўскі**.

*"Гэта не проста шанцаванне, а заслужаная ўзнагарода за карпатлівую працу",* — цытуе belta.by дырэктара асацыяцыі.

Цяпер нацыянальная зборная каманда рыхтуецца да ўдзелу ў чэмпіянаце краін Усходняй Еўропы па цырульніцкім майстэрстве, які пройдзе 18—20 мая ў Санкт-Пецярбургу.

## *Дар'я Домрачава будзе ездзіць на белым джыпе*

Новай машынай спартсменку забяспечыў губернатар Цюменскай вобласці.

Беларуская біятланістка атрымала дзве пераканаўчыя перамогі ў спаборніцтвах "На прызы губернатара Цюменскай вобласці".

У якасці прыза беларуска атрымала аўтамабіль — джып Toyota Rav4. Яна абрала белую машыну, таму што, па яе словах, *"гэты колер больш жаноцкі".*

**Аліна ВЕТРАВА.**

ВЕРНІСАЖ

# А мальвы ўжо цвітуць!

За акном немаведама што — ці то зіма з вясною спрэчку вядуць, ці то вясна з зімою. Але перада мной, нібы жывая, раскашуецца белая прыгажуня-кветка, ад яе вее свежасцю летняга рання, чысцінёй... Сапраўды, няма нічога немагчымага, калі за пэндзаль бярэцца чарадзей-жывапісец высокай маркі Аляксей Марачкін (Алесь Мara).

У сіле і шматграннасці ягонага таленту, ужо ў каторы раз, мелі магчымасць пераканацца запрошаныя на вернісаж з твораў, напісаных мастаком апошнім часам і яшчэ нікім не бачаных. Усяго пяць-шэсць карцін у невялічкім памяшканні — настолькі невялічкім, што Аляксей Антонавіч мусіў па чарзе — адну за адной — прадстаўляць свае работы ў цесным сяброўскім асяродку. Затое ўражанне ад міні-вернісажу, бясспрэчна, цягне на поўнамаштабнае "максі". Якое шчасце, што масціты жывапісец не трымаецца ніякіх "ізмаў", путаў, рамак, штампаў, модных цячэнняў і прыёмаў, абраных раз і назаўсёды. Да вобразнага ўвасаблення кожнай задумы — свой падыход. Таму і хочацца бясконца любавацца яго мальвай ("мальвіна" — ласкава называе яе мастак), што ўзрослая ў вясковым палісадзе кветка сваёй стромкай сцяблінай нагадвае і старажытную стралу, і сучасную ракету, і вежу казачнага па харастве віленскага храма Св.Ганны.

Рамантычна-ўзнёсла і пяшчотна-шчымліва выказваецца мастак на вечную тэму кахання ў карціне "Фрэгат любові". Зусім іншае па гучанні, суровае па каларыце палатно "Дровы", якое ўзнімае да сімвалу звычайную побытавую сцэнку з вострым пачуццём безнадзейнасці ў абліччы герояў.

— Колькі ж талентаў у нашага шматграннага Алеся Мarы, не злічыць! — падсумаваў уражанні вечарыны паэт Генадзь Бураўкін. — Што ён цудоўны мастак — усе ведаюць. Што выдатны паэт — многія, я сам быў у захапленні, пачуўшы яго ўпершыню. А вось што яшчэ і кампазітар, і музыка, і спявак — гэта адкрыццё! Ну, а як грамадскі дзеяч, змагар-патрыёт за Нацыянальнае адраджэнне, за вольную і дэмакратычную Беларусь — Марачкін заўжды на віду!

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**



**На здымку: карціна А.Марачкіна "Мальвіна".**

ЗГУБА

## *Яна была яго святлінкай...*

Наколькі ж непрадказальнае жыццё! Роўна тыдзень таму, у мінулую пятніцу, калі ладзіўся згаданы вышэй вернісаж, Ірына Сяргееўна Марачкіна была разам з намі, побач з мужам, з якім яны амаль не расставаліся. Хіба што тады, калі Аляксей выпраўляўся з мальбертам на мастакоўскія пленэры ці ў далёкія вандроўкі. У той вечар, як заўсёды, была яна ціхая і ветлая, вочы свяціліся радасцю і гордасцю за дарагога чалавека, якога любіць і цэніць не толькі яна...

А ўсяго праз тры дні — хто б мог падумаць — раптоўна сама адправілася ў далёкую-далёкую дарогу, толькі апошнюю, з якой ужо не вяртаюцца...

Тэлефаную 3 красавіка Аляксею Антонавічу, каб дамовіцца аб здымках да рэпартажу з выставы, — і не адразу пазнаю яго голас. "Прабач, не магу гаварыць, — прарываецца скрозь мужчынскія рыданні. — Бяда!.. Ірыначка... Ірынкі маёй не стала... Толькі што... На маіх руках вочы заплюшчыла, растаяла..."

З раніцы гэтага дня яна пачувала сябе крыху ніякавата. Але пачуўшы, што муж збіраецца занесці ў Палац мастацтва сваю карціну, настаяла, каб узяў з сабою. Не хацела, не магла без яго і хвіліны. Ды і пасля доўгай хваробы так і карцела ёй апынуцца на вольным паветры. Яны добра прагуляліся па горадзе. Але, калі вярнуліся дадому, Ірыне зрабілася кепска. Сэрца... Дапамогі "хуткай" ужо не спатрэбілася...

...З таго першага дня, калі — маладыя, прыгожыя, поўныя ўзнёслых мар і надзей — яны сустрэліся на вуліцы Віцебска, да дня апошняга такімі і заставаліся: маладымі, прыгожымі, поўнымі надзей. І вечна закаханымі — насуперак гадам, сівізне, цяжкасцям і выпрабаванням. Ірына Сяргееўна заўжды падзяляла, прымала душой клопаты і творчыя пошукі мужа. Магчыма, без яе натхняльнай сілы так бы шырока не раскрыліўся яго магутны самабытны талент. А калі яшчэ ў сярэдзіне 80-х Аляксей Марачкін стаў актыўным дзеячам Беларускага нацыянальнага адраджэння, адным са стваральнікаў мастакоўскай суполкі "Пагоня", і яна стала поплеч з ім — шчырай руплівіцай на ніве беларушчыны. Без яе кіпучай, святлістай энергіі было цяжка ўявіць сядзібу ГА ТБМ імя Ф.Скарыны...



**Ірына і Аляксей Марачкіны ў пару маладосці.**

"Мая Ірынка, Ірыначка"... Іначай Аляксей Антонавіч жонку і не называў. Яна была і будзе яго святлінкай, што азарыла жыццё. Вельмі балюча, невыносна горка перажываць незваротную страту сям'і Марачкіных — Аляксею Антонавічу, сыну Ігару, нявестцы Ірыне, унучаку Злату. Сябры смуткуюць разам з імі. Ёсць адно толькі суцяшэнне: тая, што пайшла ад нас з жыцця, застанецца жыць у нашай нязводнай памяці і любові.

Хай будзе пухам ёй родная бацькоўская зямля на Віцебшчыне ў вёсцы Барсукі, дзе ўжо ляжаць ці яшчэ жывуць яе родныя, блізкія і землякі.

Трымайся, дарагі Аляксей Антонавіч!

# Блукае прывід Освальда...

*(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.)*

З газет спрабуе чытаць толькі "Знамя юности". (Вярнуўшыся ў Амерыку, выпісаў "Советскую Белоруссию".) Мусіць уладкоўвацца на працу (тунеядцаў тут не любяць). Але і выкарыстоўвае напоўніцу магчымасці новага жыцця ў новай, такой шчаслівай краіне. Актыўна наведвае танцы ў Палацы прафсаюзаў, ходзіць у кіно і оперу, улюбляецца, прытым, як прызнаецца ў дзённіку, з першага позірку. Ад адной у адчаі, з другой лёгкі раман. Увосень 1960-га круціць раманы адразу з чатырма дзяўчатамі: Інай з кансерваторыі, Нэляй з інязу, Розай з "Інтурыста" і Элай з завода. Аднак ажэніцца ў красавіку 1961-га з пятай — медсястрой Марынай. *"Думаем пра сваю будучыню. Нягледзячы на тое, што я ажаніўся з Марынай, каб насаліць Эле, я закахаўся ў Марыну..."* Тут аўтара кнігі падсцерагала спакуса пайсці па лініі найменшага супраціўлення і абмежавацца прыватным жыццём свайго героя, яго амурнымі прыгодамі.

Інакш кажучы — абраць больш выйгрышны ў чытацка-спажывецкім сэнсе варыянт. Але ён гэтага не робіць. У Аляксандра Лукашука іншая задача, і ён акцэнтуе на іншым, на тым, як складваецца лёс чалавека, апанаванага супрацьнатуральнай, ілжывай ідэяй, і закладніка, па сутнасці, супрацьстаяння дзвюх сістэм, дзвюх грамадска-палітычных філасофій. Сумнеўным выглядае шчасце маладога амерыканца, які стаў настолькі марксістам-камуністам, што гатовы — як піша ў лісце да брата — у выпадку вайны *"забіваць кожнага амерыканца, які надзене вайсковую форму дзеля абароны амерыканскага ўрада — любога амерыканца"* (ліст змешчаны ў пачатку кнігі). Сумнеўнымі выглядаюць і перакананні Освальда, інфантыльна нетрывалымі — яго ілюзіі. І вось ён ужо — чытаем далей кнігу — пачынае крытычна ацэньваць у сваіх нататках, якія зацята піша па начах, палохаючы тым Марыну ("ці не шпіён ён?"), некаторыя рэаліі савецкага раю, нават ужывае такія моцныя і, як гэта ні дзіўна, палітычна дакладныя азначэнні, як "таталітарная сістэма", "жорсткі кантроль", "паліцэйская дзяржава". І прымае ўпотай нялёгкае, трэба думаць, але цвёрдае рашэнне вярнуцца на радзіму, у гэтыя самыя ненавісныя, тройчы праклятыя Штаты...

Высвятляючы адказ на пытанне пра сувязь паміж Мінскам пачатку 1960-х і Даласам 22 лістапада 1963 года, А.Лукашук звяртаецца да кнігі — бестселера Нормана Мэйлера "Гісторыя Освальда", спасылаецца на сваё працяглае інтэрв'ю з ім. "Амерыканскі Талстой" (ён жа "новы Хемінгуэй", нобелеўскі намінант) гаворыць: *"Я думаю, што трэба пайсці значна глыбей. Освальд выехаў з Мінска і вярнуўся ў Амерыку. І аднойчы ён сказаў сабе: я адзіны чалавек, які жыў параўнаўча каля самага дна, у сацыяльных нізах у абедзвюх краінах. Я быў рабочым нізкага ўзроўню ў Савецкім Саюзе, і я рабочы нізкага ўзроўню тут, у Амерыцы. І я ведаю абедзве краіны ад нізу да верху так, як ніхто болей не ведае. Ніхто ў свеце не ведае таго, што ведаю я. І гэта сапраўды так. Адсюль прыйшло пачуццё сваёй велізарнай значнасці".*

Вось такую ролю адыграў у лёсе Лі Харві Освальда стольны горад Мінск. (Паказальна зноў-такі, што адказ на пытанне, ці быў Освальд у Беларусі, Мэйлер дае ў сваёй кнізе: Освальд быў у СССР. Беларусь як такая не прызнаецца. Рабіце выснову, браткі-беларусы.)

Асобная тэма — жанравая разнавіднасць кнігі "След матылька. Освальд у Менску". Што гэта? "Дакументальнае падарожжа ў Мінск 1960-х, дзе жыве дзіўны амерыканец-перабежчык" (словы анатацыі)? Гісторыка-публіцыстычнае даследаванне? Раман у асобах і дакументах? І тое, і другое, і трэцяе. Сказаць адназначна можна толькі наступнае. Кніга выйшла ў вядомай "Бібліятэцы Свабоды" (спецыяльны праект Беларускай службы Радыё Свабода). Аўтар — кіраўнік гэтай службы, аўтарытэтны, шматвопытны радыёжурналіст, і гэтага не магло, натуральна, не адбіцца на вобразна-выяўленчым складзе выдання, не вызначаць такія асаблівасці стылю, як лаканізм, дасціпнасць, выразнасць інтанацыі.

Па-мастацку абыгрываючы цягам усёй кнігі ўзятую з апавядання Рэя Брэдберы "І грымнуў гром" метафару — матылька, з-за гвалтоўнай гібелі якога нараджаецца бура (матыльковая тэорыя хаосу), А.Лукашук піша: *"У СССР 1960-х амерыканец, які па сваёй волі прыехаў сюды жыць і працаваць, успрымаўся як матылёк з іншай планеты. Менск часоў Освальда цяпер — таксама ўжо іншая планета, дзе лётае загадкавая чужародная істота".* У маім жа ўяўленні паўстае крыху іншая карціна: над могілкамі амерыканскага гарадка Форт Ворт і над мінскай плошчай ці то лётае непрыкаяная душа, ці то блукае цень, блукае прывід *"дзіўнага амерыканца",* які так і не знайшоў краіну сваёй мары...

